PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 31 (2203) Год XLIII Беласток 2 жніўня 1998 г. Цана 1,20 зл.

## Культура і адукацыя беларускага замежжа

Яўген Міранович

**У днях 17-18 ліпеня ў памяшканнях Беластоцкага універсітэта праходзіла навуковая канферэнцыя, прысвечаная культуры і адукацыі беларусаў, якія пражываюць за межамі Беларусі. Сустрэча была арганізавана Беларускім гістарычным таварыствам, Беларускім саюзам у Рэчы Паспалітай, Літаб'яднаннем „Белавежа", Згуртаваннем беларусаў свету „Бацькаўшчына" і Нацыянальным навуковым і культурнаасветным цэнтрам з Менска. Прысутнічалі прадстаўнікі беларускіх арганізацый з Польшчы, Беларусі, Расіі, Літвы, Латвіі, Украіны, Эстоніі і Злучаных Штатаў Амерыкі.**

**Беларусы на Памор'і**

Канферэнцыю пачала Лена Глагоўская з Гданьска дакладам на тэму актыўнасці беларусаў, выхадцаў з Беласточчыны, на Памор'і. Сустракаліся яны пры цэрквах падчас багаслужбаў, аднак працэс інтэграцыі праходзіў і праходзіць без удзелу царкоўных фактараў, — сказала дакладчыца. Становішча Царквы ў гэтай справе прадставіў у палемічным выступленні айцец Рыгор Місіюк з Беластока. Сказаў ён, што



*Лідэры ЗБС „Бацькаўшчына" Ганна Сурмач і Радзім Гарэцкі ў прэзідыуме карферэнцыі.*

святары і царкоўныя ўлады ўключыліся ў працэс нацыянальнага адраджэння зараз пасля таго, калі ўзніклі дзеля гэтага палітычныя ўмовы. Не пагадзілася з гэтым тэзісам Лена Глагоўская, паказваючы прыклады адмоўнага стаўлення гданьскіх святароў і архіепіскапа Беластоцка і Гданьскага Савы да праблем тамашняй беларускай дыяспары.

Віталь Скалабан з Менска расказаў пра стан даследчыцкіх прац над бежанствам, якое падчас I сусветнай вайны ахапіла амаль усё праваслаўнае насельніцтва Беласточчыны і моцна паўплывала на яго грамадскую, палітычную і рэлігійную свядомасць.

[працяг ☞ 4]




## Музычнае „Басовішча"

**Канцэртаў на „Басовішчы" слухае новае пакаленне публікі, якая ад фестывалю патрабуе выключна музыкі, а не палітычных ці нейкіх іншых дэкларацый. Ад першага выпуску фестывалю прайшло 8 гадоў — у гэты прамежак часу паволі адбылася найважнейшая перамена музычнага відовішча ў Барыку. Маханне бел-чырвона-белымі сцягамі надалей выдатна прэзентуецца ў фотааб'ектыве, але арганізатары фестывалю ахвотней карыстаюцца сёння факсамі і сотавымі тэлефонамі, чымсьці лозунгамі пра адраджэнне чагосьці ў імя нечага.**

А ўсё ж такі Фестываль музыкі Маладой Беларусі, які 17-18 ліпеня г.г. адбыўся ў Гарадку дзевяты раз, з'яўляецца найважнейшым стымулам музычнага руху сярод маладога пакалення на Беласточчыне. Ён гэта праклаў сапраўдны мост паміж тварцамі маладзёжнай музыкі ў Беларусі і Беласточчынай. Без фестывалю наўрад ці магчымым сталі б канцэрты сучасных беларускіх гуртоў на Беласточчыне — „Мроя", „Уліс", „Крама", „Палац", пэўна, выступілі б раз або два ў нейкім клубе Беластока ці Варшавы, але наогул спаглядалі б у сваіх артыстычных планах далей, на захад. Без такога штогадовага музычнага форуму як „Басовішча" немагчымым было б і наша тут музычнае жыццё, прынамсі не ў такім маштабе як цяпер. Праўда, нашы гурты ў прыгнятальнай большасці няўстойлівыя — з году ў год мяняюцца іхнія назвы, жанры і персанальныя саставы, часамі гурты ўзнікаюць толькі дзеля „Басовішча". Але праўда і такая, што не такія мы ўжо тут шматлюдныя ды артыстычна моцныя, каб мець пяць або дзесяць сваіх „Р. Ф. Брагаў". Адна „Брага", якая выступае ў канцэрце зорак побач „НРМ" і „Крамы" (прытым, невядома ўжо, хто каму зрабіў у гэтым годзе такім суседствам гонар) — гэта і ёсць наша музычная з'ява. Пра такое я нават не падумаў у 1992 г., арганізуючы супольна з Б. Пякарскай і Л. Тарасэвічам трэцяе „Басовішча". А „Басовішчу" праз год стукне ўжо круглая дзесятка.

Першых „Басовішчаў" слухала пакаленне, сталенне якога выпала на момант палітычнага і культурнага пералому — для яго на першым плане была беларуская нацыянальная кантэстацыя. Цяпер „Басовішча" слухае пакаленне, якому ў 1990 г. было гадоў 8-9-10. „Басовішча" для гэтага пакалення з'яўляецца перш за ўсё дадзенай яму рэальнасцю, а не вынікам якогасьці пералому, таму і не ставяць слухачы ніякіх патрабаванняў у кантэстацыі ці бунце. Патрабаванне толькі адно — у музыцы і чаданні. І „Басовішча" іх здавальняе — чадуе, а пры гэтым: па-беларуску.

Заўжды пры арганізацыі „Басовішча" ўзнікае пытанне прафесіяналізму ў яго праявдзенні. Прафесіяналізм гэты ў вялікай меры адбываецца — энтузіязм, на якім нараджаліся першыя фестывалі, выціснуты цяпер „спонсарствамі", „патранатамі", „выключнасцямі" і „канцэсіямі". Інакш ужо і быць не можа.

Дзевятае „Басовішча" склалася такое, якая музыка на ім. Слабенькі першы конкурсны дзень ды знакамітыя канцэрты ўсіх беларускіх рок-гуртоў на другі дзень. Здаецца, у гісторыю адышлі ўжо працяглыя настройкі інструментаў („Эй, Вань, дай клавішы на маніторы"). Згневала толькі *гвяздорства* польскага гурту, які прымусіў так доўга чакаць свайго канцэрта. Слабізну першага дня імпрэзы Беларускае аб'яднанне студэнтаў павінна нейкім чынам скарэктаваць у будучым годзе — годзе юбілею „Басовішча".

Аляксандр Максімюк

## Гібрыд арла і зайца

У Беларусі ніхто не абанкруціўся. Нават „Гомсельмаш" дыміць трубамі і выплачвае рабочым мізэрную зарплату. Праўда, рэгулярна. Не плацяць толькі калгаснікам, але ім амаль ніколі не плацілі. Затое пенсіянеры свае 20-30 долараў атрымоўваюць рэгулярна.

[каментарый ☞ 2]

## У рытме сонечнага рэге

На пляж можна прыйсці толькі ў цвярозым відзе. Кожны абавязаны надзець купальны касцюм любога колеру. У адрозненні ад загараючых, ратаўніка пазнаеце па аранжавай вопратцы. Загараючым і плаваючым строга забаронена карыстацца алкагольнымі напоямі, прыводзіць сабак.

[летні рэпартаж ☞ 3]

## Краявід без клямкі

А тут адна клямка, кавалак металу выгнуты ў прамы вугал адкрывае ўсе дзверы. І трэба толькі, каб гэты звычайны кус металу быў якраз у тваёй кішэні. Бо ўсякія прадметы валяюцца ў людскіх кішэнях. Ключы і насавыя хустачкі, банкноты і блакноты, нават цвікі і шмат якога калібру гайкі. Хто, аднак, без канкрэтнай прычыны носіць клямку?

[апавяданне ☞ 5]

## Час сказаць праўду

У час рэструктурызацыі ўвальнялі чорнарабочых, а іхныя службовыя абавязкі сталі выконваць адміністрацыйныя працаўнікі, з вышэйшымі зарплатамі. Усё плыло як у каруселі: увольнілі кандуктара, на яго месца прывучылі стрэлачніка, а на месца стрэлачніка прывучылі дзяжурнага. А ўсё дзеля таго, каб выкладчыкі (кантралёры і інструктары ПКП) мелі занятак на курсах па перакваліфікацыі кадраў.

[артыкул ☞ 9]

## Рэквіем да „Бахматаў"

Здзіўляе толькі купальская ночка над залівам у Дубічах-Царкоўных. Там за кветкай бегала некалькі хлопцаў з нейкага СУПа, якія яшчэ не так даўно на беразе рэчкі Нарвы крычалі: *Чаго ж я цю нічку марную*, а паколькі славутая кветка там ім не паказалася, пайшлі на поўдзень. Напрамак, несумненна, добры.

[фельетон ☞ 11]

# Беларусь — беларусы

## Еўрапейская пілігрымка

***(нататкі аб святкаванні 80-х угодкаў БНР у беларускім замежжы)***

*(працяг; пачатак у 29 н-ры)*

**Лондан**

З Брусэля накіраваліся на поўнач і пад вечар пераехалі мяжу з Францыяй. Праз паўтары гадзіны былі ўжо ў Кале. Тут пераправа праз Ла-Манш. Праз паўтары гадзіны ўбачылі берагі Англіі. Апоўначы дабраліся мы да Лондана, дзе ў Скарынаўскай бібліятэцы чакаў нас гасцінны айцец Аляксандр Надсан.

Лондан быў другім горадам у Еўропе, дзе шырока святкаваліся 80-я ўгодкі БНР. Сюды таксама з'ехаліся беларусы з розных краінаў. Ганаровым госцем была Івонка Сурвіла — прэзідэнт Рады БНР. З Францыі прыехалі Міхась Навумовіч, Лявон Шыманец, Аляксандра Гужон. У адрозненне ад Прагі, тут была вялікая дэлегацыя з Беларусі, усяго 15 чалавек — прадстаўнікі ад парламента 13-га склікання, ад БНФ і наша дэлегацыя ад Фонда „Сакавік" і Згуртавання беларусаў свету „Бацькаўшчына". Так што ў „беларускай вёсцы" ў Лондане было ажыўлена, а часам і тлумна. Тут заўсёды бываюць людзі: нехта жыве з прыезджых, пастаянна кватаруюць студэнты з Беларусі, якія вучацца ў Англіі. Усім тут хапае месца. Як прыветны гаспадар, айцец Аляксандр стараецца аказаць усім павагу. Дзівішся, як толькі ён упраўляецца з гэтымі клопатамі па ўтрыманні будынкаў, забяспечвае дзейнасць Бібліятэкі, вядзе службу ў царкве. Пазней з прыемнасцю а. Аляксандр паказаў гасцям Бібліятэку і каштоўнейшы нядаўні набытак — пражскае выданне Бібліі Ф. Скарыны 1517 года. Гэтая унікальная знаходка была зроблена праз сістэму Інтэрнэт супрацоўнікам Радыё „Свабода" Сяргеем Шупам, які і прапанаваў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі купіць выстаўленую некім на аўкцыёне рэліквію. Але нашым установам зрабіць гэтую справу аказалася не пад сілу. І тады а. Аляксандр прыклаў намаганні, каб кніга не трапіла ў чужыя рукі і заняла годнае месца ў фондах Бібліятэкі імя Скарыны ў Лондане.

Мы выказалі яму шчырую падзяку за такую важную для ўсіх беларусаў справу. У такія моманты з цеплынёю думаю пра беларускую эміграцыю на Захадзе, ад якой нам трэба вучыцца сапраўднай пашане да свайго нацыянальнага.

Раніцою 25 сакавіка мы прачнуліся рана, у $7^{30}$ ужо пачалася служба ў царкве. Затым паехалі разам у цэнтр Лондана, дзе ў фешэнэбельным „Hotel Lancaster" павінен быў адбыцца прыём у гонар нашага свята. Арганізавала яго Згуртаванне беларусаў у Вялікабрытаніі (ЗБВБ). Урачыстасць адкрыла прыгожым уступным словам сп. Алена Міхалюк, цяперашні старшыня ЗБВБ. Затым слова ўзяла Івонка Сурвіла — прэзідэнт Рады БНР, якую ўсе прысутныя цёпла віталі. Ад гасцей з Беларусі выступілі старшыня Прэзідыума Вярхоўнага Савета 13-га склікання Сямён Шарэцкі і прадстаўнік ад БНФ Вінцук Вячорка. Усё было арганізавана ўрачыста, святочна, паангельску дакладна. Зала ўпрыгожана беларускімі і ангельскімі сцягамі. Было многа гасцей з ангельскага боку, прадстаўнікі ўкраінскай і латышскай амбасадаў. Толькі не было бачна зусім нікога ад Амбасады Беларусі ў Лондане. Цяпер паўсюдна на Захадзе нашы дыпламатычныя службы ўстрымліваюцца ад кантактаў з беларускай дыяспараю, што, безумоўна, зусім не на карысць нашай краіне.

Сустрэліся мы з суродзічамі, з многімі даўно ўжо не бачыліся. Рада была я паразмаўляць з Юры Весялкоўскім, Міколам Сенькам, Сяргеем Дзейкам і многімі іншымі. Усе цікавяцца сітуацыяй у Беларусі, ва ўсіх баліць сэрца за Бацькаўшчыну. Хваляваліся ўсе разам, як там прайшлі святы ў Мінску, даведаліся, што ізноў арыштаваны некаторыя ўдзельнікі святочнага мітынгу. Там, у Лондане, цвілі сады, было пасвяточнаму цёпла і спакойна, але ва ўсіх, хто прыехаў з Беларусі, на душы спакою не было.

Святочны дзень завяршыўся сяброўскаю вячэраю ў „Скарынаўцы".

***(працяг будзе)***

**Ганна Сурмач**

## Чарговае распяцце беларускай мовы

25 і 26 чэрвеня ў Менску адбылася беспрэцэдэнтная акцыя — з сядзібы па Румянцава 13 высялялі Таварыства беларускай мовы. Кіравалі аперацыяй судовы выканаўца Менскага абласнога гаспадарчага суда Уладзімір Скурат, юрыст ЖРЭА Партызанскага раёна Аляксандр Кучук і старшы ўчастковы інспектар Віктар Чарнабаеў.

Высяленне адбылося нягледзячы на тое, што рашэнне суда было своечасова абскаржана. Разгляд скаргі яшчэ не адбыўся. Нягледзячы на тое, што старшыня суда Раман Маркоўскі быў у курсе справы са скаргай і мог прыпыніць на два месяцы правядзенне высялення. Нягледзячы на тое, што 23 чэрвеня адбылося пасяджэнне камісіі Менскага гарвыканкама, якая пастанавіла прымяніць для ТБМ ільготы і арэндная плата замест 10 долараў за кв. метр стала ўсяго 1 долар. Нічога не было ўлічана. Відаць, некаму вельмі карцела як найхутчэй даварыць разгром такога жывучага ТБМ.

„Распні, распні", — паўтара сутак вісела ў паветры пакуль грузчыкі выцягвалі з памяшкання і грузілі ў трактарны прычэп 40 тысяч кніг, а таксама мэблю ды іншую маёмасць. Уся маёмасць ТБМ была звалена на склад таго ж ЖРЭА.

Вось вам, шаноўныя беларусы, і ўся дзяржаўнасць вашай мовы, і ўсё правы, і ўсе законы. Адзін трактар, тры грузчыкі і па ўсім Таварыстве беларускай мовы імя Францішка Скарыны.

*„Наша слова", № 25(359), 1.07.1998 г.*

**Масква слязам не верыла. Ці паверыць цяпер?**

## Гібрыд арла і зайца

Сесія парламенцкага сходу Саюза Беларусі і Расіі, якая адбылася ў пачатку мая ў Гомелі, прыняла тэкст закона, у адпаведнасці з якім плануецца стварыць саюзнае казначэйства і да 2002 года ўвесці адзіную валютную адзінку.

На наш погляд, больш неадпаведны час для такога палітычнага кроку выбраць было практычна немагчыма. Яму, з аднаго боку, папярэднічаў зрыў у штопар беларускага рубля, а з другога, пра будучую „дружбу валютамі" было заяўлена на фоне ўзмацнення нестабільнасці фінансавых рынкаў Расіі, урад якой для падтрымкі расійскага рубля вымушаны быў звярнуцца да золатавалютнага запасу, а „дрэнны хлопчык" Чубайс быў адпраўлены на Захад з заданнем выбіць крэдыты.

**Браць ці не браць?**

(...) Так праблема не ставіцца. Браць трэба неадкладна (калі дадуць), таму што падатковыя паступленні падаюць, аб'ём узаемных неплацяжоў прадпрыемстваў нарастае, растуць даўгі дзяржавы, а з імі — сацыяльная напружанасць. Трэба „браць" і таму, каб мець час для рэальных зрухаў да лепшага, для забеспячэння росту ўласных рэсурсаў.

Таму менавіта Ельцын і аб'явіў „новы курс" — антыкрызісную праграму, якую прапанаваў думцам абмеркаваць і прыняць у тэрміновым парадку, бо ў іншым выпадку „будуць прыменены іншыя меры". Як бы там ні было, але ў любым выпадку Расію чакаюць нялёгкія часы і ўсялякія рэзкія палітычныя рухі, нават і аб'яднаўчыя, становяцца недапушчальнай раскошаю. (...)

Канешне, нам не прывыкаць да эксперыментаў па скрыжоўванні асобін розных відаў з мэтай атрымання прадуктыўнага патомства. Але птушак з млекакормячымі спарыць, здаецца, ніхто не прабаваў, тым больш, што арол — драпежнік, у нашым выпадку, двухгаловы, а заяц — жаласны грызун, якога пры іх выпадковай сустрэчы не заўсёды выратоўваюць шпаркія ногі. Тым не менш, „скрыжоўнікі", як бачым, знаходзяцца.

**Ад чыстасардэчнага футбола да чыстасардэчнай палітыкі**

У гады свайго прэм'ерства гэты ненатуральны акт прабаваў здзейсніць Вячаслаў Кебіч, а цяпер яго многія паслядоўнікі выявіліся па абодвух баках расійска-беларускай граніцы. Яна, дарэчы, існуе рэальна, але з геаграфічнай мае мала супольнага. Хутчэй за ўсё гэта граніца паміж мінулым і будучым, існуючая ў свядомасці кожнага з нас, значыць, у палітыцы і эканоміцы перш за ўсё. Дакладней так: гэта раздваенне свядомасці, якое прадвызначае дастаткова шызафрэнічныя падыходы ў палітыцы.

Не ведаю як хто, але я, напрыклад, стаміўся і ад інфляцыі, і ад інтэграцыі, якая альбо будзе, альбо і не, а калі будзе — то якая і дзеля чаго. Карацей кажучы, хацелася б ведаць, хто каго намагаецца абхітрыць і за чый кошт. Адносная стабільнасць расійскага рубля, адзіны, дарэчы, прыклад поўнасцю відавочнага поспеху рэформ, дасягнутая коштам жорсткіх фінансавых мер, у выніку якіх банкрутамі сталі цэлыя галіны эканомікі, агромныя памераў дасягнулі даўгі дзяржавы насельніцтву і прадпрыемстваў рабочым. І толькі дзякуючы гэтаму цеплілася надзея на тое, што эканамічная сістэма Расіі набыла нейкую ўстойлівасць і краіна можа развівацца незалежна ад таго, хто стане яе чарговым прэзідэнтам.

У Беларусі ўсё інакш. У нас, калі меркаваць па знешніх прыкметах, ніхто не абанкруціўся. Нават „Гомсельмаш", аб'ёмы вытворчасці якога знізіліся за гэтыя гады на 10 разоў, дыміць трубамі і выплачвае астаўшымся ў цэхах рабочым мізэрную зарплату. Праўда, рэгулярна. У цэлым гэтае характэрнае і для іншых галін і прадпрыемстваў, з бюджэтнікамі ўключна. Не плацяць толькі калгаснікам, але ім амаль нідзе не плацяць і амаль ніколі не плацілі. Затое пенсіянеры свае 20-30 долараў, у пераліку па рыначным курсе, атрымоўваюць рэгулярна.

Наогул, аднак, праслаўтая беларуская талерантнасць блізкая хітрасці. Толькі гэтым можна растлумачыць, дапусцім, з'яўленне ў нас „чыстасардэчнага футбола" (праўда, прыдумаў яго ўраджэнец Каламны Эдуард Малафееў) і, магчыма, гэтакай „чыстасардэчнай" палітычнай гульні ў выкананні Аляксандра Лукашэнкі. Знамянальна, што адно і другое знаходзіла і знаходзіць спачуванне і падтрымку ў Маскве, але цалкам адкідалася і адкідаецца ў Кіеве. Там заўсёды ўласных хітрыноў было дастаткова многа, а ў спорце, як і ў палітыцы перш за ўсё цэняцца інтарэсы і рэзультат.

**Каму гэта патрэбна?**

Калі Пётр Пракаповіч, былы кіраўнік Брэсцкага аблсельгасбуда, былы віцэ-прэм'ер і архітэктар беларускай валютнай палітыкі стаў старшынёю Нацбанка, ён меў поўнае права сказаць аб „зайчыку": я зрабіў з ім, што хацеў!

А што хацеў Пракаповіч? Ён хацеў, каб у нашай рынкава-сацыялістычнай краіне грошы былі ва ўсіх. А паколькі ён і былае з грашовымі знакамі, то ўсё робіцца даволі проста: уключаецца друкарскі станок і... Далей, за „зайца" ўжо ніхто нават ломанага граша не дасць. (...)

Спецыялісты налічваюць да пяці абменных курсаў, па якіх каціруецца беларускі рубель. Яны ўсё больш разыходзяцца паміж сабою і больш адстаюць ад курса чорнага рынку, на якім валюта толькі і прадаецца, а на астатніх — пераразмяркоўваецца. У гэтых умовах можна, канешне, гаварыць і аб аб'яднанні валютных сістэм, і аб стварэнні агульнай грашовай адзінкі, але толькі за кошт больш цвёрдай валюты — расійскага рубля. Але ў гэтым выпадку акажацца, што расійскі бок свае асаблівае стаўленне да Беларусі і яе эканамічных цудаў будзе мусіць аплаціць са сваёй кішэні. А грошай беларусам патрэба вельмі многа, што перспектыву ператварэння арла ў мокрую курыцу робіць зусім відавочнай.

Сёння сярэднезарабляючы расіянін пасля прыезду ў Мінск адчувае сябе калі не Крэзам, то чалавекам не бедным, бо ў яго кішэні знаходзіцца валюта, за якую можна купіць усё і танна. У гэтым сэнсе для яго граніцы на самай справе няма, і ён у нас поўнасцю жаданы госць. Іншая справа беларус, які, апрача набітай „зайчыкамі" кішэні і славянскага патрыятызму, прапанаваць не мае чаго. А пакуль сур'ёзных грошай няма, дык і Смаленск становіцца далёкім замежжам.

Да гэтай пары эканамічная палітыка Беларусі будавалася на прынцыпах супрацьлеглых расійскім. У гэтай ступені, у якой Расія адкрывалася на свет, Беларусь самаізалявалася (...). Сёння Беларусь трэба лічыць не лідэрам інтэграцыі, аб чым гавораць усе і ўсюды, а самым слабым яе звяном, калі не тармазам. Такі выбар зрабіла наша палітычнае кіраўніцтва, чакаючы, што будзе ён аплачаны Крамлём у імя вышэйшых інтарэсаў.

Ці паверыць Масква ў чысціню намераў? Хутчэй за ўсё не: фінансаваць РБ, у выпадку чаго, стануць на рэштковым прынцыпе, нароўні з Чукоткай або Бурацыяй...

**Канстанцін Скуратовіч**

*„Навіны" № 69, 30.06.1998 г.*

# У рытме сонечнага рэге

Спякотны поўдзень. У цэнтры Беластока быццам у пекле: гарачыня, смурод бензіну, лянівае руханне натоўпу. Аўтобусам нумар 15 еду на гарадскі пляж у Дайлідах. Ужо сама думка пра ваду прыносіць палёгку. Частка аматараў загарання, пераважна маладзёны з паненкамі, рашаюць увайсці цераз плот. Дзірак у ім хоць адбаўляй. Уваход на пляж каштуе два злотых, школьнікам і дзеткам на пяцьдзесят грошаў менш, за стаянку машыны трэба заплаціць тры злотых.

— Людзі сябе лепш адчуваюць, калі заплацяць за прыемнасць, — кажа пані касірша.

**Як сябе паводзіць?**

На пляж можна прыйсці толькі ў цвярозым відзе. Кожны паклоннік купання і загарання абавязаны надзець купальны касцюм любога колеру. У адрозненні ад загараючых, ратаўніка пазнаеце па аранжавай вопратцы. Перш чым палезеце ў ваду, трэба прыняць душ. Загараючым і плаваючым строга забаронена карыстацца алкагольнымі напоямі, кідаць паперу і бутэлькі, прыводзіць сабак. Усе гэтыя перасцярогі можна прачытаць на інфармацыйнай табліцы ля ўваходу на пляж. Аднак наведвальнікі нават не спазіраюць у той бок. Забараняецца ўваход з сабакам, — службова інфармуе касірша дзядзьку з сабарном, засусленым баксёрам.



— Дык што, мне з „Неранам” цераз плот улазіць? — хвалюецца аматар загарання. — Хочаш па-людску ўвайсці, то яшчэ табе сораму наробяць, — лаецца дзядзька, увалакаючы сваё сабачыска на пляж.

**У рытме сонечнага рэге**

Пляж запоўнены да апошняга месца. Пераважаюць моладзь і пенсіянеры. У многіх руках, быццам правіла, баначкі з піўцом. Іншыя ўзяліся за рытуальнае спажыванне ежы.

— Пасля купання дзікі апетыт, — кажа пан Зэнэк, заняты курыным сцягенцам. Яго жонка падрыхтавала на пляж абед. Бо ж танней са сваім кошыкам прыйсці.

— Jeszcze się tu salmonellą jaką zarazisz, — кажа пра стравы з сярмяжных ларкоў жонка пана Зэнка.

Сапраўды, гастранамічныя паслугі, санітарнае абсталяванне палохаюць старасцю і пахам. На прыбіральні, у дадатак, фашыстоўскі лозунг: — Honor, Skin — Polska — Żydzi von. Лепш не разглядацца навокал.

— Ja to lubie na młode dziewczynki popatrzeć, — усміхаецца пажылы аматар загарання. Ягоныя суседзі, маладзёны ў цёмных акулярах і штоніках размаляваных у афрыканскія пальмы, наракаюць на недахоп грошай.

— Каб меў грошы, на Мальёрку паехаў бы. Са сваёй дзяўчынай, — кажа адзін з іх. — Бо там увесь час сонца, — дадае. — Загарэш хоць сабе на негра.

Сёлетні пляж мігціць яркімі колерамі касцюмаў. На кожным кроку сустрэнеце сум па адпачынку на трапічных астравах: парасоны, касцюмы, ручнікі размаляваныя ў пальмы, надзіманыя акулы і кракадзілы, сонечная музыка — рэге, што без перапынку гучыць з гукаўзмацняльнікаў.

— Ах як цудоўна, як цудоўна, — уздыхае жонка пана Зэнка. А пан Зэнэк бярэцца за смажаныя катлеткі.

**Шпацыраваць не рэкамендую**

Пляж прыцягвае сваёй соннасцю і лянівасцю. Наведвальніку адразу хочацца легчы і загараць. Пачуццё стабільнасці і бяспечнасці падмацоўваюць радасныя крыкі дзяцей. Аднак тут абавязвае купальны касцюм. Таму рашаю пахадзіць па больш абязлюдзелых, непрыветлівых месцах. Крутой сцяжынкай, абраслай па баках крапівой, кустамі, пустазеллем іду ў напрамку горада. Ведаю ўжо, што плот там дзіравы і ў кожны момант можна апынуцца на вуліцы. Паўз аброслы быллём бераг вадасховішча найчасцей сустракаем самотных рыбакоў. Часам вясёлую кампанію за бутэлькай гарэлкі або непрыхільнікаў купальных касцюмаў. Можам напнуцца на закаханую парачку, або запрацаваных паненак з-за ўсходняй мяжы. За адзіныя дваццаць злотых можна „адпачываць” цэлую гадзіну. Але не рэкамендую шпацыраваць берагам вадасховішча. Перш за ўсё з увагі на невыносны смурод, што даходзіць з мяснога камбіната (ПБМ).

**Ганна Кандрацюк**

*Фота з архіва*

# Баяцца раніцай уставаць

**Малако — асноўны сельскагаспадарчы прадукт, які гарантуе сялянам пастаянны прыток наяўных грошай. Аднак строгі санітарны рэжым, які ўводзяць малочнатаварныя заводы, ускладняе гэтую галіну вытворчасці. Асабліва цяжка прыстасавацца да новых патрабаванняў малым гаспадаркам. Пра жывёлагадоўлю і вытворчасць малака спытаў я пастуха, селяніна і ветэрынара.**



**Пастухова доля**

— Пасу кароў ужо семнаццаты год, — расказвае, наглядаючы на пашы за статкам, **Юры Федаровіч**, 71-гадовы пенсіянер, жыхар Орлі (на здымку). — Пасля вайны, у 1949-1950 гадах пасвіў я кароў у былой Прусіі, у маёнтках Заводы і Катэрнава ў гміне Вішнева. Тады людзі з усёй краіны з'язджаліся на вернутыя землі ў пошуках работы. У Орлю вярнуўся я ў 1950 годзе і паступіў на працу ў кафлярню. Наступныя 32 гады капаў я гліну. Пасля адыходу на пенсію па стане здароўя згадзіўся я пасвіць кароў, каб падзарабіць да невялічкай пенсіі. У гэтым годзе за пяць месяцаў — ад мая да кастрычніка — зараблю 1500 злотых. Пасу кароў кожны дзень ад шостай раніцы да паловы сёмай вечара. Раніцай бяру ў гаспадара ў торбу харчы на цэлы дзень. Падпаска ў гэтым годзе я не бяру, бо ў нічым ён мне не паможа, а набегацца за каровамі трэба столькі ж, што і з памочнікам. Вясною, калі быдла ўпершыню выходзіць на пашу, трэба іх моцна пільнаваць, бо яны два тыдні паводзяць сябе бы дзікія. Калісь я пасвіў яшчэ сваіх дзвюх кароў. Хаця я не селянін, трымаў кароў толькі летам, а восенню прадаваў іх. Раней каровы былі толькі чырвонай пароды, не было чорна-белых. Чырвоныя былі больш тлустыя і непадатлівыя на хваробы. Яшчэ 10-15 гадоў таму ў Орлі было 300 кароў. Цяпер у маім статку толькі 43 штукі. А травы хапае, хаця ўгнаеннаў не прымяняюць у такой ступені як калісьці...

**Вада даражэйшая за малако**

— Гадоўляй малочных кароў займаюся ўжо дваццаць гадоў, — кажа 56-гадовы земляроб **Мікалай Мураўскі** з Орлі. — За ўвесь гэты час вяду сшытак, у якім запісваю, між іншым, цану малака ў паасобных месяцах. Можна сказаць, што цана літра малака павялічвалася намінальна, але не рэальна, бо грошы абясцэньваліся ў выніку інфляцыі. Сёлета некалькі месяцаў плацілі нават па 83 грошы за літр, але пазней зменшылі цану з-за бактэрый у малацэ і далі меншы дадатак за якасць. Многія сяляне папрадавалі кароў і ўжо не загатаўляюць сена. Ніхто не хоча рабіць дарма. Цана малака ў скупцы падае, але цэны малочных вырабаў у магазінах пастаянна растуць. Дваццаць гадоў таму за прададзенае на працягу паўтара года малако ад чатырох кароў я мог купіць любы трактар. Сёння была б за гэта толькі адна шына, нават не кола. За плады сялянам плацяць марныя грошы і здараецца, што няма ім чым заплаціць падаткі. Лепшая сітуацыя ў тых земляробаў, якія маюць пры сабе бацькоў пенсіянераў.

**Што прынясе Еўрасаюз?**

— Штогоду пагалоўе кароў у Арлянскай гміне падае на 10%. У гэтым годзе гэтая некарысная з'ява можа ўзмацніцца ў сувязі з увядзеннем новых нормаў якасці малака, — заяўляе ветэрынарны лекар **Юзэф Бжана**. — Даследаванне якасці малака праводзіцца два разы ў месяц на кошт селяніна. Пробы бярэ інструктар малочнатаварнага завода і возіць іх у Беласток. У залежнасці ад класа малака селяніну вызначаецца цана за літр сырца. Апрача гэтага малако і так двойчы патаннела ў гэтым годзе, апошнім разам на 10 грошаў за літр. Ва ўсёй гміне толькі дзевяць буйных гаспадарак маюць адпаведныя халадзільныя ўстаноўкі, а 33 сялян — халадзільнікі для бітонаў. Астатнія ахалоджваюць малако „метадам Гопа” — пластмасавую бутэльку з-пад напою „Гоп” напаўняюць вадою, замарожваюць яе ў маразілцы і бутэльку з лёдам кладуць у сырадой. У абязлюдзелых вёсках налічваецца толькі 30% кароў у параўнанні да таго ліку, які быў тут 10-15 гадоў таму. У самой Орлі трымаюць каля 100 кароў.

Сяляне мяркуюць, што калі Польшча стане членам Еўрасаюза, пачнецца сапраўдная бяда. На вёсках пагаварваюць, што айчынная сельская гаспадарка знішчаецца цяпер шляхам нізкай цаны на малако, каб потым увесці на рынак дарагія заходнія малочныя прадукты. Цана на ялавічыну таксама нізкая і сяляне лічаць жывёлагадоўлю нерэнтабельнай.

* * *

Пры пунктах скупкі малака сяляне штораніцы абмяркоўваюць сітуацыю ў сельскай гаспадарцы і наракаюць, што не разумеюць, што навокал іх дзеецца. Кажуць коратка: „Папросту баімся раніцы, бо не ведаем што нам, сялянам, прынясе новы дзень...”

**Міхал Мінцэвіч**

*Фота аўтара*

# Ахова здароўя ў Трасцянцы

Часта даводзіцца мне праязджаць цераз Трасцянку і наглядаць, як бабулькі-пенсіянеркі сядзяць перад будынкам вясковай амбулаторыі і чагосьці чакаюць. Аднойчы заехаў я да сваіх трасцянцкіх сваякоў і згаварыліся мы пра тамашнюю медыцынскую апеку. Аказваецца, што ў вясковым асяродку аховы здароўя лекар — спецыяліст па прамысловых хваробах — працуе на паўстаўкі. Прыём адбываецца такім чынам, што зранку прыязджае медсястра і да дзевятай гадзіны чакае ў амбулаторыі. Калі да гэтага часу лекар не прыедзе, а пацыентаў збярэцца многа, тады яна тэлефануе лекару ў Беласток, каб ён прыехаў у Трасцянку. Вяскоўцы наракаюць, што лекара цяжка сустрэць у асяродку і дзівуюцца, чаму Гайнаўскі ЗОЗ плаціць яму за такую нерэгулярную працу грошы. Нават калі і прыедзе ён у вёску па выкліку медсястры, то нават не накладае белага халата і стараецца як найхутчэй адправіць хворых, бо сам спяшаецца ў Нарву, дзе рамантуецца будынак, у якім будзе змяшчацца ягоны прыватны кабінет.

У гмінным амбулаторыі ў Нарве тамашні лекар не хоча прымаць жыхароў Трасцянкі, бо ў іх свой асяродак і свой лекар. Не памагаюць тлумачэнні трасцянцкіх хворых, што цяжка ім папасці да свайго лекара. А ў нарваўскага доктара сваіх пацыентаў мноства і ў яго няма часу прымаць хворых з суседняга асяродка.

На маю думку, ЗОЗ у Гайнаўцы павінен прыняць адпаведныя меры, каб дапамагчы пацыентам у Трасцянцы.

**Лукаш Мікалаюк**

# Накірунак — экалогія

У Белавежскай гміне завяршаюць пабудову водаправодаў. Сёлета — у маі — ваду з крана атрымалі жыхары вёскі Пагарэльцы. Неўзабаве пачнуць пабудову водаправоднай сеткі ў вёсцы Буды.

Зараз пачалі пабудову каналізацыі ў цэнтры Белавежы і ў адным з белавежскіх пасёлкаў — Заставе.

У гэтым годзе завершана пабудова гімнастычнай залы ды сауны пры Пачатковай школе ў Белавежы.

Варта адзначыць, што ў будынках розных белавежскіх устаноў і офісаў выменьваюць сістэму ацяплення памяшканняў з вугальнай на алейную і газавую. У бліжэйшы час на новае — экалагічнае — ацяпленне, у тым выпадку алейнае, пераходзіць мясцовая пачатковая школа. **(гай)**

# Культура і адукацыя беларускага замежжа



*У кулуарах канферэнцыі (злева): Генадзь Пяцігор — вядучы спецыяліст Міністэрства адукацыі РБ, пісьменнік Сакрат Яновіч, саветнік Пасольства РБ у Варшаве Уладзімір Каральчук і старшыня Клуба „Спадчына" Анатоль Белы.*

[1 ☞ *працяг*]

**Прэм'ер-міністр збіраўся на канферэнцыю**

Такую інфармацыю перадала ўдзельнікам канферэнцыі міністр культуры і мастацтва Іаанна Внук-Назарова, якая прадставіла прынцыпы польскай палітыкі ў адносінах да нацыянальных меншасцей. Пані міністр адсутнасць прэм'ер-міністра Бузка апраўдала важным галасаваннем у Сейме, дзе вырашалася колькасць ваяводстваў. Беластоцкі віцэ-ваявода Юзэф Клім, вітаючы ўдзельнікаў канферэнцыі пераконваў іх, што Беласточчына — гэта прыгожая краіна, дзе пануе дух шматкультурнасці і талерантнасці. Магчыма, што госці з Эстоніі ці Латвіі і паверылі яму.

**Далейшае і бліжэйшае замежжа**

Адам Мальдзіс — менскі даследчык жыцця беларускай дыяспары, сказаў, што раней пра беларусаў за межамі БССР неяк не выпадала гаварыць. Хаця амаль паўтара мільёна суродзічаў пражывала ў Расіі, 500 тысяч на Украіне, паруcоттысячная грамада ў Польшчы і Літве, у Беларусі нічога пра гэта не згадвалася. Тых, якія жылі на Захадзе, бальшавіцкая прапаганда прадстаўляла як здраднікаў савецкай „радзімы". Цяпер наступіў новы падзел суайчыннікаў на тых з блізкага замежжа — Расіі, Казахстана, Таджыкістана і далейшага, якое, між іншым, ахоплівае беларусаў з Польшчы.

**Беларускае пісьменства на Беласточчыне ўзнікла пасля 1956 г.**

Да такіх высноваў дайшоў Сакрат Яновіч у сваім выступленні пра беларускі пасляваенны літаратурны рух у Польшчы. Гэты тэзіс яшчэ больш радыкальны ад тых, якія ставілі бэгэкатоўскія вучоныя, якім гісторыя беларускай інтэлектуальнай дзейнасці на Беласточчыне пачалася пасля 1944 г. Можа, аднак, варта памятаць, што Краскоўскі, Рэшэць, Казлоўскі, Чарнецкі, Ільяшэвіч, Бычкоўскі, Лявіцкі жылі ў час, калі не давалі датацыяў на выданванне твораў беларускай літаратуры. Тады добра толькі плацілі паліцыянтам за тое, каб іх творчасці не пабачылі дзеці „тутэйшых", каб беларускі люд жыў у перакананні, што на „простай" мове можна гаварыць толькі да каровы. Бібліятэчку „Белавежы" таксама дазволілі стварыць тады, калі няма ўжо каму чытаць на беларускай мове, а тыраж у пару дзесяткаў экземпляраў поўнасцю забяспечвае запатрабаванне рынку. А пры нагодзе варта таксама ўспомніць, што нядаўна яшчэ вялікія аўтарытэты савецкай філасофіі даказвалі, што сапраўдная цывілізацыя пачалася пасля выстралу „Аўроры".



*У зале пасяджэнняў (злева): Зянон Пазьняк, Канстанцін Майсеня і Міхась Андрасюк.*

**Дапамога „славянскім базарам"**

Галіна Сяргеева з Менска заявіла, што беларуская дыяспара не цікавіць сённяшніх улад Беларусі. На яе патрэбы выдзяляюцца нейкія сімвалічныя сродкі, тады калі вялікія грошы накіроўваюцца на арганізацыю фестываляў тыпу „Славянскі базар", падчас якіх рэанімуюцца савецкія сентыменты. Гым часам звыш мільённая беларуская дыяспара ў Расіі не мае ніводнае свае школы, ні аднае газеты, ні аднаго рубля датацыі з расейскага бюджэту. Расейская меншасць у Беларусі мае ўсё, уключна з дзяржаўнай уладай.

Анатоль Сабалеўскі з Мінска звярнуў увагу, што на Захадзе — у Лондане, Кліўлендзе — ёсць багатыя архівы для даследавання навейшай гісторыі беларусаў. Але хто з беларускіх вучоных зможа туды паехаць, зарабляючы 50 доляраў у месяц? — пытаўся дакладчык.

**Стварыць антыакупацыйныя структуры**

Бурлівымі апладысментамі публіка прывітала старшыню Беларускага народнага фронту Зянона Пазьняка. Ва ўмовах антынацыянальнай дыктатуры, — сказаў Пазьняк, — нават карыстанне беларускай мовай сталася палітычнай дэманстрацыяй. На Беларусі фактычна ёсць стан акупацыі, якую праводзіцца ўнутранымі сіламі. Восенню 1996 года лукашысты ліквідавалі апошнія канстытуцыйныя механізмы змены ўлады. Няма цяпер ніякіх легітымных метад змагання з таталітарнай дыктатурай. Лукашэнка і яго каманда вядуць прафесійную палітыку знішчання нацыі. Яго поспехі з'яўляюцца не вынікам сілы, але слабасці апазіцыі. Дэзінтэграванае савецкае грамадства вельмі пасіўнае і пра нішто ў сапраўднасці не вырашала і не вырашае. Калі б раптам праваліўся Лукашэнка, — гаварыў Пазьняк, — няма з боку апазіцыі ніякай структуры гатовай пераняць уладу. Так ці інакш улада апынулася б у руках вертыкальшчыкаў і КДБ. Таму Беларусі перш за ўсё патрэбны структуры, пабудаваныя на нацыянальнай ідэі. Тым часам на Захадзе глядзяць на Беларусь выключна праз прызму парушэння правоў чалавека, калі там затоптваюць цэлую нацыю.

**Перамога ліцэістаў**

Вядомы пісьменнік Уладзімір Арлоў з'яўляецца таксама членам Бацькоўскага камітэта пры Беларускай гуманітарнай гімназіі ў Менску. Гэта адзіная сярэдняя школа з беларускай мовай навучання ў сталіцы Беларусі. Арлоў расказаў пра змаганне вучняў і моладзі за існаванне гэтай школы, якую лукашысты ўсялякімі спосабамі прабавалі ліквідаваць. Звярталіся нават за дапамогай да Барыса Абрамавіча Беразоўскага, выканаўчага сакратара СНД і адначасова аднаго з першых багацеяў Расіі. Пакуль што школа застаецца ў руках беларускай інтэлігенцыі.

**Славяне ў Эстоніі**

Зінаіда Клыга з Эстоніі сказала, што ў некаторых раёнах гэтай краіны эстонцы складаюць знакамітую меншасць. У Нарве, напрыклад, 70% жыхараў складаюць рускія. Праблема ў тым, што перасталі яны цяпер называць сябе рускімі і сталі славянскай нацыянальнай меншасцю. Беларусы, каб захаваць сваю нацыянальную тоеснасць, вымушаны цяпер паказваць сваю адметнасць, інакш, пад шыльдай славян, успрымаюць іх як рускіх.

**Зварот да прэм'ер-міністра**

На заканчэнне сустрэчы ўдзельнікі канферэнцыі прынялі пастанову аб сваёй падтрымцы для ідэі Беларускага саюза стварыць у Беластоку Цэнтр беларускай культуры, які мог бы стаць прыстанішчам для інтэлектуалаў з Рэспублікі Беларусь. Зварот у гэтай справе сабраныя вырашылі паслаць прэм'ер-міністру Рэчы Паспалітай.

Сумнае, што беларусы Беласточчыны не могуць разлічваць на падтрымку свае культуры з боку Рэспублікі Беларусь так, як палякі з Беларусі карыстаюцца дапамогай сваіх суродзічаў.

**Яўген МІРАНОВІЧ**

*Фота Міры ЛУКШЫ*



*Удзельнікі канферэнцыі падпісваюцца пад зваротам да прэм'ер-міністра (злева): Галена Тапалянская (Польшча), Алесь Карповіч (Латвія) і Хведар Нюнька (Літва).*

# Нашы карані

**CXXIII. Шляхі да з'яднання**

Набліжэнне уніятаў да праваслаўнай Царквы хоць і ахоплівала ўсё больш людзей, але адбывалася яно аднак даволі марудна. Толькі з'яўленне выдатнага дзеяча уніяцкага Касцёла і праваслаўнае Царквы на Беларусі і Украіне архіепіскапа Іосіфа Сямашкі давяло да шчаслівага канца гэтую велічную справу.

Нарадзіўся Іосіф Сямашка 25 снежня 1798 года ў сям'і уніяцкага духоўнага на Кіеўшчыне. Закончыў Галоўную уніяцкую духоўную семінарыю пры Віленскім універсітэце, у 1821 годзе быў высвечаны на святара і як надзвычай здольнага яго накіравалі выкладчыкам у Луцкую уніяцкую духоўную семінарыю. Праз год Сямашка ўжо стаў членам Уніяцкага дэпартамента Рымска-каталіцкай калегіі пры расійскім урадзе. Дзякуючы ўмелым захадам неўзабаве ён дамогся самастойнасці Уніяцкаму дэпартаменту, а гэта фактычна вызваляла уніяцкі Касцёл у Расейскай імперыі з-пад залежнасці ад каталіцкага Касцёла. У 1829 годзе Сямашку высвячаюць у біскупа мсціслаўскага. Тады толькі ён выяўляе свае даўнія перакананні, што уніяцкі Касцёл павінен пакаяцца ва ўчыненых на працягу амаль 250 гадоў грахах слабасці ў веры, пыхі, ерасі, расколу і праследаванняў у адносінах да свае маці роднае, праваслаўнае Царквы. Гэтымі меркаваннямі ён абменьваецца з духавенствам і свецкімі веравызнаўцамі уніі і знаходзіць у іх амаль паўсюдную падтрымку. Да такога вываду прыходзіць уладыка Іосіф не пад націскам улады, але ў выніку глыбокіх разважанняў над мінулым уніі і назіранняў над яе сучаснасцю. Ён, перш за ўсё, заклікаў царскія ўлады, каб яны ніякім чынам не ўмешваліся ў справу далучэння уніятаў да праваслаўнае Царквы, не спрабавалі паскараць яго насіллем. Затым ён меркаваў, што трэба адмовіцца ад індывідуальнага ці групавога прымання уніятаў, але неабходна працаваць над агульным далучэннем іх усіх. А гэта патрабуе адпаведнай падрыхтоўкі і часу.

Уладыка Іосіф са сваімі спадзвіжнікамі і аднадумцамі пачалі справу з духоўных семінарыяў. Там знеёмілі будучых святароў з праваслаўнымі багаслужбамі, увялі навучанне царкоўнаславянскай і рускай мовам. Сталі з абрадаў ва уніяцкіх святынях выводзіць аплаткі, літаніі, арганы, званкі ў святой Літургіі, амбоны, бакавыя алтары і ўводзіць у той жа час праваслаўныя крыжы, адзін алтар, іканастасы. Адначасна вялася выясняльная праца з уніяцкім духавенствам аб неабходнасці злучэння з праваслаўнай Царквою, а праз духавенства гэтае перакананне ахоплівала ўсё болей вернікаў. І вернікі, за нямногімі выключэннямі, прыхільна прымалі гэтыя думкі і змены ў іхніх цэрквах. Нярэдка адносіліся да справы з'яднання з праваслаўнымі з вялікім энтузіязмам. А гэта таму, што ў Рэчы Паспалітай усе пагарджалі уніятамі, называлі іх вызнаўцамі „халопскай", „хамскай" веры, а каталікі лічылі сябе людзьмі „панскага" вызнання. Таму уніяты імкнуліся далучыцца да „панскай" праваслаўнай веры, да „благачэсця" і нават часта дамагаліся ад свайго духавенства служыць ім чыста праваслаўныя набажэнствы. Гэтак набліжаўся прыхільны час да поўнага з'яднання уніятаў з праваслаўнымі.

**Мікола ГАЙДУК**

# Літаратурная старонка (463)

Міхась Андрасюк

## Краявід без клямкі

I

Вось табе і дзіва: адна клямка адкрывае ўсе дзверы. Ніякіх шыфраў, ніякіх ключоў, ні тайных замоў, от, звычайная, паспалітая клямка, мізэрны рэзультат серыйнай вытворчасці. Сотні такіх клямак у блёках, у крамах, у школах. Пабліскваюць у промнях сонца, заахвочваюць холадам срэбнай гладкасці і дастаткова працягнуць руку каб праверыць, што скрываецца з другога боку. А за дзвярыма ўсё можа быць. Чакае там твая дзяўчына, прыгожая ад свежай, толькі што развітай маладосці, або паліцы ўгінаючыеся ад таннага віна, як пропуск у свет дарослай самастойнасці, а можа быць і настаўнік нямецкай мовы — дужа пажылы дзядзька, зіма-лета апранашаны ў тры кашулі, пяць пінжакоў і сам чорт ведае ў што яшчэ.

Круціш, блытаешся, шпрэхаеш нямела, а дзядзька глядзіць на цябе з-за масіўных акуляраў і яго вочы, павялічаныя крывізной лінзаў, яшчэ больш расшыраюцца ад шчырага здзіўлення.

— Зэц дыш, цвай, — кажуць агромныя вочы. — Лернэн, ву-чыц-ца! Іначай — з чым у Еўропу?

Тады робіш загаданае „зэц дыш" — абавязкова побач хлопца — бо зрабіць „зэц дыш" ля дзяўчыны — самы вялікі, самы смяротны, самы незмывальны грэх. — За адну парту — адзін пол.

Дзіўная — як на сямідзесятыя гады дваццатага стагоддзя — педагагічная логіка, але пан дырэктар кажа, што дзядзька зусім нармальны, прынамсі на свой узрост. Семдзесят заўжды разумнейшае за семнаццаць. А вам якраз семнаццаць і зарыентаваўшыся ў чым справа, нават апошні разява ўсаджваецца пад бокам класнай прыгажуні, а працэс вяртання да прадбачанага парадку паглынае тры чвэрці ўрока нямецкай мовы. Так і быць. На халеру табе гэтая мова! Ты — славянін і Еўропа пабразгвае табе бруднымі міскамі ў кухнях элегантных рэстаранаў. Хіба што — як дзед — застукаеш у дзверы калашом, або дулам танка Т-34, але навошта тады ўсякія „эншульдыге бытэ" і другія цацы-цацы. Немцу скажаш: Давай пад стенку! — А ягонай немры кароткае: Лажысь! А калі б яна не зразумела, пакажаш вядомы міжнародны жэст: сагнутая ў локці рука, далонь у кулак, а ўсё разам працуе бы поршань рухавіка ўнутранага згарання. І яна зразумее. Усе жанчыны свету дасканала разумеюць гэты жэст, асабліва — калі ты смярдзіш спіртам і накіроўваеш у іх ствол аўтамата. Кладуцца, каб з высока задзёртымі спадніцамі пакутаваць за радзіму, міністраў і свой жаночы род.

А тут адна клямка, кавалак металу выгнуты ў прамы вугал адкрывае ўсе дзверы. І трэба толькі, каб гэты звычайны кус металу быў якраз у тваёй кішэні. Бо ўсякія прадметы валяюцца ў людскіх кішэнях. Ключы і насавыя хустачкі, банкноты і блакноты, нават цвікі і шмат якога калібру гайкі. Хто, аднак, без канкрэтнай прычыны носіць клямку?

А вось пан Франак вядзе цябе доўгім калідорам, а ў кішэні свайго белага фартуха мае звычайную, універсальную клямку. Калідор цёмны і смярдзючы, ні малюнкаў, ні цокаляў, ні іншых непрактычных аздоб. Час ад часу ў фіялеце сцяны белай плямай выскакваюць дзверы. Прачытваеш зграбныя таблічкі: доктар-псіхіятр Жабоўскі, доктар-псіхіятр Ліповіч, Антонаў — таксама доктар і абавязкова псіхіятр. Іншых тут і няма.

— Хворае сэрца? Балючая нага? Прабачце, гэта не ў нас. Мы рамантуем адно мазгавыя апараты, скрыўленыя характары, пакамечаныя душы. Здавальняе? Значыць — вы добра трапілі. Калі ласка, заходзьце.

Пан Франак пакажа дарогу, пан Франак праўдзе, пан Франак ведае. Першы аддзел вітае вас апошнімі камплектнымі дзвярыма. Направа ложак, налева ложак, а ты як Вісла плывеш пасярэдзіне і пан Франак дзьме ў парусы. З-пад памятай пасцелі сочаць за вамі вочы: адна пара, другая, пятая, дзесятая. Перастаеш лічыць. Малаважнае. Дробязь. Лішняя матэматыка. Дарэчы — якая матэматыка падсумуе і страх, і цікавасць, і абыякавасць у гэтых вачах? А падсумаваўшы — што атрымаецца? Лічба? Сума? Сум? Стоп. Дзверы. Рука пана Франка вандруе ў кішэню, вяртаецца з клямкай, адзін спрытны рух і другі. Смела ступай, не разглядайся, гэта толькі дзяжурка медсясцёр. А паглядзець ёсць на што. Шкляныя шкапчыкі. Паліцы перапоўненыя пілюлькамі крычаць, бы гандляры на базарах. Адна паліца для спакойных, другая для самадураў! Для смутных і вясёлых! Балбатунам і буркунам! Каму-каму бо ядз до дому!

І дзверы. Дзверы налева, дзверы наўпрост. А нам куды, пан Франак? Не пытай. Уціхамірвальная кашуля на табе, як грэх смяротны, значыць — ступай наўпрост: туды, дзе трэці аддзел!

— Кажуць, тут пекла, — маніпулюруючы клямкай падморгвае пан Франак. — Але ты не слухай. Якое там пекла? Звычайны „буйняк". Або калыска. Калыска-соска-пілюлька-казка. Прыехалі і люлі.

— Эх, Франак, Франак, перавозчык ты мой, Харон мілы. Развяжы, пан Франак, рукі, у мяне і манета ў кішэні ёсць. Развяжы рукі, сабачы сын! — Скажаш так? Не скажаш, бо атрымаеш у зяпу статрохкілаграмовую руку, лепшае за ўсе пілюлькі лякарства. Не прызнаеш неканвенцыйную медыцыну? Значыць, маўчы і лягай, бы тая немра-гаротніца, а пан Франак прывяжа прасторныя рукавы тваёй кашулі да парэнчаў ложка.

Ляжыш вось. Ляжыш і стынеш. За акном сівымі мурашкамі асыпаецца снег. Відаць — тутэйшы ён, гэты снег — як і ўсё кругом памаленьку робіць сваю работу. А куды спяшацца? Разгараешся вокамгненна, а стынуць трэба паступова, метадычна, медычна. У другім выпадку не вытрымаеш, трэснеш, рассыплешся дробным макам, як гартаванае шкло. А час марудзіць, памаленьку, сівымі крыламі сціскае прастору вечаровы птах. У такую хвіліну чалавеку ўсё адно дзе ён, а тое, што было, як чужы боль, без водару і без смаку праходзіць побач, расплываецца ў абыякавасці. Ляжыш вось. Ляжыш і думаеш, якім тут чынам закурыць.

Калі ў васемнаццаць не можаш без закуркі, значыць — ніц добрае з цябе не будзе, — кажа твой настаўнік фізікі. Сам ён некурэц і не любіць тых, хто курыць. Перш за ўсё — ён любіць падобных да сябе. Хочаш, каб любіў цябе настаўнік фізікі? Простая справа. Загадуй бэбах, чэрап астрыжы да белай скуры і кінь курыць! Хіба, што ты — дзяўчына. Калі так, тады зусім іншая гісторыя. Бэбах і залысіна — не для цябе атрыбуты. Калі ты дзяўчына, галоўная твая праблема — адпаведны гардэроб. Нацягні на сябе кароткую спадніцу, такую кароткую, абы як-небудзь закрыла майткі, сядай за першую парту і пільнуй, каб на працягу сарака пяці мінут тваё левае калена трымалася магчыма найдалей ад правага. Тут і ўся таямніца. А вось падобныя да сябе дзяўчыны — настаўнік фізікі не прызнае. Разумееш яго, бо і хто зможа палюбіць жыватастую, лінялую, акалечаную доўгім носам дзеўку? Няма такіх.

А курыць хочацца. Разглядаешся, шукаеш дапамогу, але дарма ўсё!..

***(працяг у наступным нумары)***

Міра Лукша

### *Няміга*

*Сяргею Кірушчанку*

Ці да Айчыны дакрануся,
Калі з гарачым сэрцам еду,
Бягу навыперадкі з лёсам,
Цераз стагоддзі гублю вочы,
Пасланцаў высылаю ранкам
Зведаць, з крыніцы мне якой напіцца,
Дзе акунуцца з галавою,
Душу дзе з ветрам у перагонкі
Рыссю пусціць, а дзе сабрацца
З сябрамі ля кастра пад колам...

Было мне добра. Ветрам гнаная,
Адчула пад стапой Нямігу.
Ліхтар глядзеў мне ў вочы ясна,
Мэталь машыны енкнуў з болю.
Пляму крыві ці ржу стагоддзяў
З вуснаў сухіх я смакавала.
Сяргей Іванавіч русінскі,
Белагаловае дзіцятка,
У магутным целе нёс ахвяру:
Зямлі счарнелай кроплю фарбы —
Спатолю, радасць і змаганне.
І кроплі падалі ў разоры,
У зморшчыны памяці і твараў,
У трэшчыны і жылы тратуару,
Сплывалі ціха па званіцах
І гучна стукалі ў Свіслач.
А я стаяла на Нямізе,
Урослая ў камень. Рукі — лісце.
Вочы пялёсткамі агню.

З кіёчкам падышоў Драздовіч,
І з яго вуснаў шпак заціўкаў:
Ці да Айчыны дакрануся,
Дзе акунуся... Дзе ўтаплюся...
— Як нам тут вызваліць Нямігу,
Што воламі пячэ нам знізу?
— Нам трэба вызваліць Нямігу.
Сама ж не вырвецца на волю.
Словам не вырвацца з-пад бруду,
Каменных ідалаў гісторыі.

Стукаў Язэп у мур кіёчкам.
Здзёр да крыві Сяргей далоні.
А я нямела... і нямела...
Бо слоў не мела... І не чула...

(І стукае мне ў сэрца попел
З кіёчка, што спалілі ўнукі).

На сэрцы попел. Пасыпаю
Я галаву і плечы. Каюся.
Усіх грахі бяру. Ліхтар
Трапечацца ў імгле. Стаіць
Язэп з бяздомнымі вачыма.
У святле вясёлка пылу ўецца.
Сяргей ідзе спаць у майстэрню,
Вялікі *sclavus*, ён стаміўся.
Дрыжу. Ссыпаюся ў ваду
Тым попелам, і іскрамі, і болем
Праз мур, пясок, іржу і гліну.

Аўгіння Кавалюк

* * *

Магілы продкаў — гэта памяць,
Каб у жыцці нам меней падаць,
Каб памятаць свой абавязак
І не забыцца родных казак, —
Іх сэнс, іх вартасць разумець...
Каб годнасць мець:
Бо толькі той, хто мае годнасць,
Шануе род, шануе роднасць.

Аляксей Марачкін

### *У вянок Язэпу Драздовічу*

Над ціхай Мнютай
туманы, што вэлюм.
Валёры колер вячэрняе палітры.
Прывід мурой... Сцяна маўклівых сосен.

Над рэчкай Мнютай
пралятаюць зоры.
Глухую навіну хавае голас пушчы.
Заблытаўся ў сівых галінах ветах.

Самотна-белы тумановы вэлюм —
самотнай постаці гаротнае наверша.
Зламаны падарожны кій...

І круг завершаны.
І не вяшчуе болей над Аутай
зязюля, што яму лічыла леты.
Замкнёны куфар — ціха на планеце.

Схіліўся на пагорку камень-жальнік.
Загубленыя ключы ад валатовак.
Начніц спалоханых
суцішыць толькі золак.

А скрозь туман
між Мнютай і Аутай
ідуць за ім не ў смутку,
не ў жалобе,
праз Млечны Шлях спасцігнуць
тайну зораў
і распачаць графічныя ўзоры
нябесных бегаў...
След яшчэ не згублены.
І не прачытана апошняя старонка.
І не збудаваны горад Артаполіс.
Яшчэ не ўсё ўзараў араты поле.
Яшчэ не ўсе размечаны ім межы.
У рыштаваннях вежы на Трывежы
Дарогі кужаль —
сцежкамі сатканы.

Віктар Швед

### *Прызямленне*

Я адарваўся ад зямлі,
Пакінуў сваё Мора
І навакольныя палі
Ды паляцеў у горад.

На шлях жыццёвы маладосць
Мне падарыла крылы,
Каб гарадская прыгажосць
Мяне запаланіла.

З бетоннай клеткі, з вышыні,
Глядзеў я на зямліцу
І засыхалі карані
Айчынныя ў сталіцы.

І без зямлі як дрэва тут
Я пагасаў няспынна,
І сніўся мне бацькоўскі кут,
Маленькая айчына.

На яве а таксама ў снах
Таўпіліся імкненні,
Каб хоць у пажылых гадах
Там здзейсніць прызямленне.

# Зорка
СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

## Вершы Віктара Шведа

### Мама акурат варыць шпінат

У школе малявання ўрок,
І тут настаўніцы намёк:
— Хай кожны без размоў,
цішком,
Свой намалюе родны дом.

Настаўніца спытала: — Клім,
Чаму ў цябе зялёны дым?
А Клім на гэта: — Акурат
Матуля варыць мне шпінат.

**Хто памятае, як калісьці бывала?..**

## Жніўны час у Дубічах-Царкоўных



Фота Уладзіслава ЗАВАДСКАГА

Хутка пачнецца жніво. Камбайны выйдуць у поле, змалоцяць збожжа, людзі звязуць салому ў клуні і толькі ўсяго.

Безумоўна, фарміраванне сучаснага чалавека як асобы адбываецца ў свеце камп'ютэрных тэхналогій і сродкаў масавай камунікацыі, але гэты чалавек забывае сваю традыцыю і культуру. Маладому чалавеку нельга забываць сваю багатую гісторыю, традыцыю і культуру, каб не страціць нацыянальнае аблічча.

Даўней жніво было адным з найважнейшых перыядаў у жыцці селяніна. Залацістыя хвалі збожжа давалі надзею, што чалавек пасля ўборкі ўраджаю адчуе сябе сапраўдным гаспадаром. Жніво мела некалькі этапаў. Падрыхтоўка да яго пачыналася раней. Гаспадар штораз хадзіў у поле пагледзець ці збожжа не злягло, ці добры выспеў колас. Сям'я рыхтавалася да зажынкаў.

У Дубічах-Царкоўных першы „зажын" рабіла гаспадыня (каб жнейкам рукі не пухлі). Перад зажынкамі жагналіся (хрысціліся) і маліліся. Жменю калосся прыносілі ў хату. Жалі доўга, найменш два тыдні. Штодзённая аднастайная праца ў летнюю спёку забірала ў жнеек усю фізічную і духоўную моц і вось жніўныя песні дапамагалі хутка аднавіць патрачаную чалавекам сілу.

Многія жыхары Дубіч з настальгіяй успамінаюць час, калі цэлай сямейкай згодна жалі сярпамі.

Паводле гаспадара Яна Хіліманюка (71 год) у Дубічах-Царкоўных дзесьці каля 1915 года ў вёсцы жыў аўстрыец Шуль, які першы пачаў жаць касой. Усе з яго смяяліся і гаварылі, што гэта нязгодна з традыцыяй.

Адзін са старэйшых жыхароў Дубіч-Царкоўных, Фёдар Млодзян (90 гадоў) паведамляе, што ён пачаў жаць жыта касой у 1926 годзе. Людзі не хацелі жаць косамі, бо асыпалася зерне.

Пасля доўгай, знятужлівай працы людзі варочаліся дахаты спяваючы песні:

*Поедзь господар по полі,*
*Позбірай жэньчыкі до столу.*
*До столу, жэньчыкі, до столу,*
*Вжэ нагуляліся по полі!*

або:

*Пошлі Божа много збожа,*
*Народзі хлеба пры дорозі,*
*Коб было гожэ*
*І нэ пусто на возі.*

Збожжа да канца не дажыналі, пакідалі „пэрэпэліцю". Мела яна форму круга. Гэтая прастора ў выглядзе недажатага круга рабілася недасягальнай для злых духаў. Такім чынам „пэрэпэліця" засцерагала ад шкоды. Гэтае недажатае збожжа звязвалі, каб захаваць жыццёвую энергію, прыбіралі кветкамі, абкладалі каменьчыкамі. У сярэдзіну „пэрэпэліці" ўкладалі хлеб і соль: хлеб меў запэўніць багацце і дабрабыт, соль — абараніць ад нячыстых сіл. Нездарма гавораць „Соль табе ў вочы", каб засцерагчыся ад зайздрасці.

Апошнія каласы ў дажынкавай абраднасці — гэта носьбіт сілы скіраванай на прызыў дабрабыту. Людзі пакідалі каласы з мэтай забеспячэння працягласці ўраджаю, каб быў багаты плён на наступны год. Некаторыя гавораць, што „пэрэпэліця" была для птушак. Магчыма, што назва паходзіць ад „перапёлкі". Жніво канчалася на Успенне, калі аздобленую кветку з жытнёвых каласоў асвячалі ў царкве. На другі дзень гаспадар браў гэтае пасвячанае калоссе і ішоў засяваць. Рабіў у полі ямачку, засыпаў туды зерне жыта, зверху рабіў з саломы крыж.

Быў звычай паліваць вадой таго, хто закончыў жніво. Магчыма паліваліся таму, каб дождж паліваў іх жыта на наступны год: „Коб всё як з воды ішло".

Даўней чалавек імкнуўся жыць у згодзе з прыродай. Шчырасць і спагада заўсёды вылучалі беларускага селяніна. Людзі жылі згодна, адны адным дапамагалі ў палявых працах, цесныя суседскія сувязі аблягчалі вясковае жыццё.

Пасля жніва пачыналіся ўжо восеньскія абрады, але гэта ўжо асобны раздзел.

**Матэрыял сабралі, абдумалі і запісалі:**
**Бася Андраюк** — VII клас ПШ у Дубічах-Царкоўных, **Кася Рыбак** — VIII клас ПШ у Дубічах-Царкоўных, **Патрыцыя Кос** — VIII клас ПШ у Ласінцы і настаўніца беларускай мовы ў Дубічах-Царкоўных **Галіна Трашчотка**.

**Ад рэдакцыі:** Допіс пра жніво надзвычай цікавы і адукацыйны. Рэдакцыя сардэчна дзякуе за пажаданні і таксама зычыць плённага, актыўнага і карыснага адпачынку.

**Зорка**

## За сем дзяўчат прыгажэйшая

***(нямецкая казка)***

Жылі-былі ў адной вёсачцы муж з жонкай. І была ў іх адна-адзіная дачка. Такая разумніца, працаўніца! Усё ж яна дома рабіла: мыла, прыбірала, абед варыла. Усюды паспявала: сад перад домам дагледжаны, у доме чыста прыбрана, падлога так і блішчыць. Не нацешацца з дачкі старыя. А ўжо такой рукадзельніцы, майстрыхі шыць ды вышываць усю ваколіцу абыдзі — не знойдзеш. Шыццём-вышываннем яна сваім бацькам на хлеб зарабляла.

Прыгожая была тая дзяўчына — ні ў казцы сказаць, ні пяром апісаць. Хоць сем самых прыгожых дзяўчат на свеце збяры і побач з ёю пастаў, усё роўна яна прыгажэйшая за ўсіх. Таму яе Сямікрасуняй і назвалі.

А якая сціплая была! Ідзе па вёсцы — твар хустачкай прыкрывае. Не хоча, каб людзі на яе глядзелі, яе хвалілі.

Убачыў аднойчы Сямікрасуню каралеўскі сын. Глядзіць, дзяўчына ідзе, як бярозка, стройная. Захацелася яму ў твар ёй зазірнуць, а хустка перашкаджае. Пытаецца ён у сваіх слуг:

— Чаму Сямікрасуня заўсёды хусткай прыкрываецца, так што і твару яе не разгледзець?

Адказваюць слугі:

— Таму, што сціплая без меры.

Паслаў тады прынц слугу з залатым пярсцёнкам да Сямікрасуні і загадаў:

— Прасі дзяўчыну вечарам да векавога дуба прыйсці. Скажы: прынц хоча з табой паразмаўляць.

Прыйшла Сямікрасуня вечарам да векавога дуба, а прынц як яе твар убачыў, дык закахаўся без памяці. І просіць Сямікрасуню:

— Будзь маёю жонкай!

Яна ж яму ў адказ:

— Ты багаты, а я бедная, мы адзін аднаму не пара. Ды і бацюхна твой разгневаецца, калі пачуе, каго ты хочаш за жонку ўзяць.

А прынц на сваім стаіць. Просіць ён яе, моліць, так што Сямікрасуня нарэшце сказала:

— Дазволь колькі дзён падумаць.

На другі дзень каралеўскі сын зноў слугу да Сямікрасуні пасылае і кажа:

— Занясі ёй чаравікі срэбныя, прасі, каб прыйшла вечарам да векавога дуба. Скажы, прынц хоча з табой паразмаўляць.

# Міфы старой Беларусі

**33. Паветрыкі**

Дзе знаходзяцца паветрыкі перад пачаткам сваёй дзейнасці, дакладна невядома: адны кажуць, што ў паветранай вышыні, іншыя — у аддаленых чужаземных краінах, трэція — што ў глыбіні балот і багны.

Паветрыкі прыпадаюць да ахвяры выпадкова, не шукаючы яе. Узлятаюць над багнаю, у глухім месцы, раптоўна падхопліваюцца з месца ветрам і нясуцца, пакуль не закрануць выпадковай ахвяры і не спыняцца на ёй. Злосныя з-за перапыненых забаў, паветрыкі накідаюцца на ахвяру і пачынаюць расправу. Скончыўшы работу, зноў носяцца ў паветры, гуляюць і забаўляюцца, пакуль вецер не перанясе іх да новай ахвяры. Вельмі часта здараецца, што чалавек, знаходзячыся паблізу паветрыкаў ці іх расправы з ахвярай, не толькі не церпіць ад іх, але і нават застаецца па-за іх увагаю ў той час, калі аддаленая ахвяра робіцца іх здабычаю. Тут усё залежыць ад напрамку ветру і затрымкі яго ў тым ці іншым месцы.

Паветрыкі дзейнічаюць адносна рэдка, праз няроўныя прамежкі гадоў, прычым усе разам, гуртам, таму што адзінаасобная дзейнасць паветрыка слабая.

*Міфы старой Беларусі.* Малюнак Ані ПРАКАПЮК з Трывежы.

# Вершы Барбары Казімерук

## Магія слоў

Хапае
адно простае слова,
каб сон астаўся
да наступнай ночы,
каб мары зноў
песцілі твой твар
а шчасце ўпарта
заглядала ў вочы,
любоў вяла сваімі
дарогамі.
Хопіць сказаць простае слова
Застанься!

* * *

Я жыла як вецер,
гуляла ў полі,
не аглядалася
за сабой ніколі.
Заўсёды бегла, каб
быць першай,
а калі асталася...
было мне дрэнна.
Хацела вярнуцца і
далей пабегчы,
але гэта немагчыма.
Бо таксама як вецер
мусіш шумець далей,
каб абярнуцца і
зразумець, што гэта
нечаканы канец.

## Калі спаткаемся!

Калі ўжо спаткаюся
з табою,
паеду ў лес,
скіну вопратку і
распушчу валасы.
Буду шалець, вар'яцець,
проста,
святкаваць.
А наканец узлезу
на дрэва і крыкну
„кахаю жыццё".
І толькі тады ўспомню
сабе, што ў мяне вялікі
страх перад вышынёю і
алергія на шышкі.

# Польска-беларуская крыжаванка № 31

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Jama / Okno | Praca / Rak | | | Komar / Kair |
| Marzenie | | Racuch / Erg | | | | | |
| Reklama | | | | | | | |
| | | | | | | | |
| Borówka | Honor | | | | | | |

**Адказ на крыжаванку н-р 27:** Свет, ляснік, свята, гітара. Яслі, сват, Нява, літар, каша.

Прыйшла Сямікрасуня вечарам да векавога дуба, прынц у яе і пытаецца:

— Ці надумалася жонкай маёю стаць?

— Калі ж мне думаць? — кажа Сямікрасуня. — Галубоў і курэй трэба накарміць-напаіць, капусту нашаткаваць, кашулі сшыць. А што раней думала, ужо сказала: ты багаты, я бедная, мы адзін аднаму не пара. Таму не магу табе згоды даць.

Пачаў прынц зноў прасіць яе і маліць. Давялося Сямікрасуні адказаць:

— Добра, падумаю, з таткам, з матуляй маімі параюся.

І вось каралеўскі сын зноў слугу да Сямікрасуні пасылае і кажа:

— Занясі ёй сукенку, золатам вышытую. Прасі, каб прыйшла вечарам да векавога дуба. Скажы, прынц хоча з табой паразмаўляць.

Прыйшла Сямікрасуня вечарам да векавога дуба, прынц у яе і пытаецца:

— Ці надумалася жонкай маёй стаць?

— Калі ж мне думаць? — кажа Сямікрасуня. — І з бацькамі пагаварыць не паспела. Спраў у мяне і ў доме, і на двары столькі, што ўздыхнуць няма калі. Не да вяселля мне! Казала я табе раней і цяпер кажу: не магу табе згоды даць.

Толькі прынц ад Сямікрасуні не адступаецца. Просіць яе, моліць каралевай стаць, клянецца:

— Што б з табой ці са мной ні здарылася, буду табе вернасць хаваць, ніколі з другой не ажанюся.

Зразумела Сямікрасуня, як моцна ён яе кахае, і кажа:

— Згодна я!

Яна ж і сама даўно ўжо яго пакахала. Баялася толькі, што няроўня яму.

Пачалі прынц з Сямікрасуняй з таго дня кожны вечар пад дубам сустракацца. І такія яны былі шчаслівыя! Бачыліся яны, праўда, тайком ад караля. Баяліся, як бы ён не даведаўся, што сын з беднай дзяўчынай сустракаецца.

А пры двары жыла ліхая бабулячарняўка. Высачыла іх і каралю данесла.

Разгневаўся кароль, паслаў сваіх людзей дом Сямікрасуні падпаліць: няхай яна ў агні згарыць!

Сямікрасуня якраз ля акенца сядзела, вышывала. Раптам дом загарэўся. Падступіла да яе ў той жа момант полымя, выскачыла яна сама не свая з акенца ды проста ў пусты калодзеж і трапіла. А бедныя яе бацькі разам з домам згарэлі.

Узяла бедачыну туга: гаравала яна, журылася, з калодзежа выходзіць не хацела. Сядзіць дні і ночы навылёт у калодзежы ды плача.

Выплакала Сямікрасуня мала-памалу ўсе свае слёзы і выбралася з калодзежа. Прыйшла на пажарышча роднага дома і некалькі манет з попелу выграбла. Купіла за гэтыя грошыкі мужчынскае адзенне, апранула яго і пайшла ў каралеўскі двор. Просіць караля:

— Вазьмі мяне ў слугі, буду верна табе служыць, а завуць мяне Гаротнік Злашчасны.

Спадабаўся юнак каралю. Узяў ён яго ў слугі. Служыў Гаротнік каралю верна і старанна. Зусім мала часу прайшло — палюбіў стары кароль Гаротніка больш за ўсіх іншых слуг. Павінен быў ён пры ім неадлучна быць, нікому, акрамя Гаротніка Злашчаснага, не дазвалялася яго каралеўскай асобе прыслугоўваць.

*(працяг у наступным нумары)*

# Не дачакаўся прызнання


Ян Тарасевіч. Канец 50-х гадоў.

*(працяг; пачатак у 28 нумары)*

**Ганна Кандрацюк:** Хто хацеў пакончыць з Тарасевічам?

**Анатоль Чарапінскі:** Пасля смерці Улазоўскай маёнтак без гаспадара стаяў. Некаторыя разлічвалі, што Тарасевіч не вернецца з Расіі ды пачалі абрабляць зямлю. Была вайна. У Саколцы стаялі яшчэ немцы. Аднойчы, на змярканні, прыйшлі два асобені. Вывелі прафесара ў лес і хацелі расстраляць. Але той ведаў усе сцежкі ў сваім лесе і ў зручны момант даў драла. Дзеля зямлі хацелі забіць. Маёнтак яшчэ раней аблупілі. Расказваў мне, як купляў мяса ў Саколцы і мяснік загарнуў свяжынку ў знаёмую паперу — яго ноты. Двор, фактычна, трэба было нанава пабудаваць.

***— Эдвард Шчасновіч, які ў міжваенны час служыў парабкам у Тарасевіча, згадваў, што паніч сам хату і будынкі пабудаваў.***

— Пэўна і так на самай справе было. Тарасевіч быў майстар на ўсе рукі. За што ні ўзяўся, усё яму добра выходзіла. Умеў, напрыклад, зрабіць прыгожую мэблю. Сталярку лічыў любімым заняткам. У Шындзелі, а пазней і ў Саколцы, прыдбаў нават варштат. Ён мог стаць выдатным мастаком-жывапісцам або скульптарам. Надзвычай добра рысаваў алоўкам, хаця ніхто яго гэтаму не вучыў. Таксама адліваў з бронзы статуэткі, прыгожа пераплятаў кнігі.

***— У Шындзелі і наваколлі ўспамінаюць Тарасевіча таксама як лекара.***

— Лекарскай адукацыі не меў. Ён проста цікавіўся медыцынай. Расказваў, як аднойчы ў час жніва жанчына пачала роды і ён прыняў на свет дзіця. Зацікаўленне медыцынай найхутчэй ад дзядзькі-лекара ўзялося. Дзядзька называўся Валянскі, большасць свайго жыцця правёў у Іране, дзе служыў лекарам у рускім пасольстве. Пасля вайны і рэвалюцыі з'ехаў у Гродна. Тарасевіч быў з ім у блізкім сяброўстве.

***— Вядома, што ў пачатку 1919 года Ян Тарасевіч выкладаў у Гродзенскай беларускай школе. 7 красавіка 1919 года, у дзень смерці дырэктара школы Алеся Грыкоўскага, кампазітар піша музыку на словы Максіма Багдановіча „Даўно ўжо целам я хварэю". У тым жа годзе ўзнікаюць хоры на вершы Якуба Коласа і Францішка Багушэвіча, а таксама раманс на словы М. Багдановіча „Асенняя песня". Здаецца, што і ў асабістым жыцці гэта гарачы час. Нараджаецца дачка Тацяна.***

— Дачка ўзялася з неафіцыйнага сужонства, якое, дарэчы, было кароткім і выпадковым эпізодам у жыцці Тарасевіча. Таццяна жыла з маці ў Гродне, а пасля другой сусветнай вайны выйшла замуж.

***— Ці Тарасевіч згадваў пра сувязі з беларускім нацыянальным рухам?***

— Не. Думаю, што баяўся патраціць маёнтак. Гаварыў пра сябе, што ён — грамадзянін Польшчы.

***— Калі б палітычныя падзеі спрыялі Беларусі, Тарасевіч мог бы стаць самым выдатным музыкантам краіны. Вясной 1920 года рэктар Менскага беларускага педагагічнага інстытута Вацлаў Іваноўскі намагаўся стварыць Беларускі нацыянальны ўніверсітэт і запрасіў на пасады прафесараў лепшыя навуковыя сілы Беларусі: Максіма Гарэцкага, Яўхіма Карскага, Браніслава Тарашкевіча. Запрашэнне атрымаў таксама Ян Тарасевіч. Захаваўся ліст, у якім кампазітар дае згоду на працу ў Інстытуце. „Прапанаваная мне дзейнасць, — піша Іваноўскаму, — знаходзіцца ў межах маёй любімай працы, я ахвотна згаджаюся прыехаць у Менск. Што датычыць матэрыяльнага забеспячэння, то многа не жадаю, бо жыццёвыя патрэбы мае даволі сціплыя". Ліст датаваны 12 чэрвеня 1920 г., напісаны ў Шындзелі. Як вядома, Іваноўскаму не ўдалося здзейсніць свае ідэі, а лепшыя сілы Беларусі знішчаюцца бальшавікамі. Тарасевіч пасля 1921 года, як усе жыхары Заходняй Беларусі, становіцца грамадзянінам Польшчы.***

— Вядзе маёнтак у Шындзелі, а перш за ўсё — займаецца музыкай. Дае ўрокі ігры на раялі дзецям з Саколкі і Гродна. Выступае зрэдку, пераважна ў дабрачынных канцэртах. Перад вайной, дзеля фінансавага падмацавання, едзіць у Беласток, дзе навучае музыкі дзяцей з багатых яўрэйскіх сем'яў. Гаспадар з яго быў слабы, маёнтак не даваў вялікага прыбытку.

***— Тамара Пашынская, суседка з маёнтка ў Сцебяльцы, успамінае, што ў другой палове 30-х гадоў Тарасевіч часта ездзіў у Варшаву, адкуль прывозіў многа нотных запісаў.***

— У Варшаве меў сям'ю з боку маці — Кушаляў.

***— Згаданая памеочыца са Сцебяльца расказвала, што жыццё Тарасевіча кружылася вакол музыкі. Нават усе размовы на агульныя тэмы ў канцы ставаліся размовамі пра музыку. А трэба адзначыць, што ні ў Беларусі, ні ў Польшчы не прызнавалі яго творчасці, яна пісалася ў стол, дзеля ўласнай патрэбы душы.***

— Прафесар стараўся, каб стаць членам Саюза польскіх кампазітараў, але не прынялі яго. Нават ніякага абгрунтавання не прадставілі. А ён быў чалавекам вельмі амбітным. Для Тарасевіча музыка была імператывам, патрэбай, якой не ўмеў сапхнуць на другі ці трэці план у жыцці. Расказваў, як нараджаліся яго кампазіцыі. З'яўлялася думка і мучыла яго дагэтуль, пакуль не выявілася ў мастацкім творы.

***— Адзнака вялікага мастака. Дарэчы, асабістае жыццё таксама не нагадвае традыцыйнай схемы. Вядома, што ў 30-я гады зноў жыве ў неафіцыйным, ахінутым таямніцай „сужонстве". Маю на думцы прыгоду з займальнай, энергічнай масквічкай.***

— Паняй Кузняцовай.

***— Кузняцова ўцякла да Тарасевіча ад мужа-вайскоўца. У Шындзель прыехала з дачушкай. Да мужа вярнулася з дачкой і сынам. Ці ведаеце, які лёс хлопчыка народжанага ў Шындзелі?***

— Прафесар ніколі не расказваў пра свае асабістыя справы. Ведаю, што знаёмства з Кузняцовай завязалася яшчэ ў дарэвалюцыйнай Маскве. Яна была знаёмай Маякоўскага.

*(працяг у наступным нумары)*

# Песня ў Гайнаўцы

У нядзелю 19 ліпеня ў гайнаўскім амфітэатры адбыўся беларускі фэст, ладжаны Гарадскою ўправай, Галоўным праўленнем БГКТ, Гайнаўскім аддзелам БГКТ і Гайнаўскім домам культуры. Мерапрыемства адкрыў дырэктар ГДК Мікалай Бушко, а за ім вельмі змястоўна прывіталіся з публікай бурмістр Ядвіга Рудзінска-Патэюк, старшыня ГП БГКТ Ян Сычэўскі і старшыня ГА БГКТ Міхал Голуб. Дапамогу ў ладжанні фэсту аказалі спонсары: страхавая кампанія „Polisa", зёлкавае прадпрыемства „Runo" і вытворчае аб'яднанне „Rolmak". Канферанс павялі маладыя: вучаніца і выпускнік гайнаўскага белліцэя. Публікі было шмат — запоўніла яна шчыльна ўвесь амфітэатр. Гайнаўская публіка ад беластоцкай розніласа тым, што была яна ў сваёй агульнай масе маладзшаю за выканаўцаў: заўважальна многа было маладых людзей! На гэты раз надвор'е пашанцавала — заглянула сонца ў наша вакно! На фэст заглянулі таксама і ўдзельнікі III міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай культуры і адукацыі беларускага замежжа, ладжанай, між іншым, Згуртаваннем беларусаў свету „Бацькаўшчына"; дырэктар Бушко прывітаў з іх ліку старшыню Згуртавання Ганну Сурмач і амерыканскага ахвяравальніка лекаў і апаратуры для гайнаўскай бальніцы Міколу Прускага.

Выступілі калектывы: блізказамежны „Радуйся", „ваяводскі" „Капры" з Беластока, „павятовыя" „Васілёчкі" з Бельска і ансамбль Гайнаўскага дома культуры, „гмінныя" калектывы з Гарадка, Чыжоў і Нараўкі ды „простыя вясковыя" з Курашава і Збуча. Свае кнігі прапанавалі чытачам паэты Віктар Швед і Янка Целушэцкі. Зацікаўленне публікі паэзіяй было, наколькі я бачыў, даволі пазяхлівае: толькі адна пажылая жанчына пацікавілася зместам літаратурнага століка. Беларускія кнігі, а таксама польскамоўныя выданні, прысвечаныя праваслаўю, прапанаваў дырэктар Цэнтра славянскай кнігі з Варшавы Янка Забродкі. На маё пытанне пра зацікаўленне беларускамоўнымі выданнямі ён толькі махнуў рукою; лепш справы выглядалі з напісанымі лацінкаю кнігамі пра нелацінскае хрысціянства ў нас.

Затое намнога лепш адбываўся продаж піва з суседняга з кнігамі самахода; нашым славянскім стрававальным трактам не надта патрэбнае веданне дзяржаўнамоўнай лацінкі, і зусім непатрэбнае веданне недзяржаўнага ў нас алфавіта. Бо народная песня, якой наогул прысвячаюцца нашы фэсты, складалася неадукаванымі мужыкамі і жыла адно ў вуснай традыцыі. А колькі яна пратрывае ў адукаваным на „паноў" грамадстве?

**Аляксандр Вярбіцкі**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*



# Час сказаць праўду

**У пачатку ліпеня г.г. саюз машыністаў дзяржаўнай чыгункі арганізаваў забастоўку, у выніку якой наступіла цалкавітая дэзарганізацыя ўсіх важнейшых шляхоў краіны.**

На працягу пяці дзён ПКП затраціла больш сарака мільёнаў злотых у таварным транспарце і каля адзінаццаці мільёнаў у пасажырскім. Забастоўка была спынена ў выніку дагаворанасці забастовачнага камітэта з прадстаўнікамі ўрада на неабмежаваны час.

**„Хто тут вінаваты?"**

— пыталі грамадства ды палітыкі.

З першых дзён забастоўкі чыноўнікі Генеральнай дырэкцыі заяўлялі аб яе нелегальнасці. Сам шэф ПКП Ян Янік сказаў: „Хто не вернецца на работу, будзе ўвольнены". Важак бастуючых, Ян Забароўскі, стаяў на сваім: забастоўка легальная, пастулаты абгрунтаваныя.

**Чаго дабіваліся машыністы?**

Асноўнымі патрабаваннямі былі: комплексная рэструктурызацыя дзяржаўнай чыгункі, прызнанне працы машыністаў шкоднай для здароўя, зніжэнне да 55 гадоў пенсіённага ўзросту машыністам, павышэнне зарплаты працаўнікам ПКП. У час перагавораў бакі дайшлі да кампрамісу за выключэннем пенсіённага ўзросту.

З прычыны панесеных ў час забастоўкі страт, ПКП паведаміла пракуратуру аб злачынстве. Зараз правасуддзе мае вырашыць аб легальнасці забастоўкі.

**Што палітыкі думаюць пра забастоўку?**

У час аднае тэлеперадачы з цыкла „Форум" ставілася пытанне: Ці ўрад павінен весці далейшыя перагаворы з прафсаюзам машыністаў, калі стане вядомым, што забастоўка была нелегальнай і ці ўвогуле трэба размаўляць з бастуючымі незалежна ад формы забастоўкі?

Палітыкі, як вядома, вялі сябе стрымана. Ніхто з удзельнікаў дыскусіі не хацеў браць цяжару адказнасці за свае словы. Толькі тэлегледачы, якія званілі, прызналі, што ўрад не павінен весці далейшых перагавораў (калі суд аб'явіць рашэнне, што забастоўка была нелегальнай — 1 441 званок). За перагаворамі выказалася больш за паўтысячы тэлегледачоў. У канчатковых разважаннях палітыкі аднагалосна выказаліся за неадкладную рэструктурызацыю прадпрыемства ПКП.

**А што на гэта грамадства?**

У час забастоўкі прыйшлося мне гаварыць з некаторымі чыгуначнікамі. У большасці мае суразмоўцы апраўдвалі машыністаў. Калі я папытаў сакратара прафсаюза машыністаў прадпрыемства чыгуначнага рухомага саставу ў Чаромсе В. Давідзюка, ён мне адказаў: „Мы не ўдзельнічаем ў забастоўцы. Гэта не наш прафсаюз арганізаваў".

**Значыць у машыністаў няма адзінства.**

На прадпрыемстве чыгуначнага рухомага саставу ў Беластоку да забастоўкі не прыступілі машыністы з Чаромхі і Астралэнкі. Яны заважылі, што цягнікі ў нашым ваяводстве курсіравалі больш-менш рэгулярна.

У іншых рэгіёнах сітуацыя была амаль бязвыхадная. Я сам узначальваў прафсаюзную арганізацыю ў пачатках дзевяностых гадоў на Чаромхаўскай станцыі і таму магу сказаць, што прафсаюзная арганізацыя будзе датуль пругка дзейнічаць і стаяць за сваіх членаў, пакуль важакі саюза не стануць залежнымі ад сваіх начальнікаў. Калі дзеячы ідуць на „ўклады", справа становіцца пройгрышнай. Лідэры, падлізваючыся сваім шэфам, здабываюць сабе ўсё неабходнае для ўласнай карысці, а на справы рабочага калектыву глядзяць „быццам Ленін на буржуазію". Найлепшы доказ — прыклад чаромхаўскай станцыі.

Старшыня прафсаюза NSZK датуль дзейнічаў, пакуль не прыхапіў ў кішэню „юбілейную" ўзнагароду на 45-годдзе працы. Грошы немалыя. Таму падпісваўся пад рознымі недарэчнымі загадамі сваіх начальнікаў. Нават такімі, якія дазвалялі марнатравіць грамадскую маёмасць. Другі важак з прафсаюза NSZZ „S" лепш „заслужыўся", і хаця не прыкладаўся да працы і цягу да трункаў меў, са стрэлачніка ў начальнікі выбіўся.

**А што атрымалі работнікі?**

Дулю з макам! У сярэднім месячная зарплата працаўніка на нашай станцыі складае 550-650 зл. У час рэструктурызацыі, у 1991-1997 гадах вымушана было развітацца з працай 213 рабочых, значыць, больш за палавіну працоўнага калектыву. На маю думку, справядліва адышлі толькі тыя, хто на пенсію падаўся. Апошнім былі селекцыйным матэрыялам для „разумных" начальнікаў і прафсаюзных хітруноў. Рэструктурызацыя на чыгунцы набівае начальнікам кішэні нашымі грашамі.

**Рыба псуецца ад галавы**

Калі закрылі чыгуначную лінію Бельск-Падляшскі — Гайнаўка — Белавежа, ПКП заключыла дагавор на перавоз пасажыраў з прыватнай фірмай, якую стварылі седлецкія начальнікі. За адзін курс аўтобуса з Гайнаўкі ў Бельск-Падляшскі з дзяржаўнай касы ПКП плыло 30 злотых у кашалёк згаданых начальнікаў. А з білетаў прыбывала ўсяго не больш за 12-15 зл. І дзе можа тут быць рэнтабельнасць чыгункі, даражэнькія?

Іншы прыклад. У час рэструктурызацыі ўвальнялі чорнарабочых з найніжэйшай платай. Службовыя абавязкі гэтых жа людзей сталі выконваць адміністрацыйныя працаўнікі, з вышэйшымі зарплатамі. Усё плыло як у каруселі: увольнілі кандуктара, на яго месца прывучылі стрэлачніка, а на месца стрэлачніка прывучылі дзяжурнага. А ўсё для таго, каб выкладчыкі (кантралёры і інструктары ПКП) мелі занятак на курсах па перакваліфікацыі кадраў.

Многа на чыгунцы беззаконнасці, балагану і негаспадарнасці. А самае горшае тое, што няма каму кантраляваць ні начальнікаў у Генеральнай дырэкцыі, ні ў міністэрстве транспарту. Адным словам: ПКП — дзяржава ў дзяржаве.

**Як абманваюць чалавека**

У 1996-1997 гадах чыгунка недаплаціла пенсіянерам за вуглявы дэпутат на 414,35 зл. Так вынікае з эканамічнага рахунку і гэта пацвердзіў Канстытуцыйны трыбунал. Пасыпаліся тады прашэнні ў суд. Толькі ў Бельску-Падляшскім паступіла каля тысячы заяў. У іншых судах было такіх заяў па пяць тысяч. А хто за гэта плаціць? Вядома, мы, падаткаплацельшчыкі. Скажаце, што ПКП нерэнтабельная ўстанова? Не мае грошай выплаціць дэпутат? Гляньце, аднак, як жывуць начальнікі, колькі дачаў варшавякі пабудавалі над Семяноўскім залівам. Нярэдка такія будоўлі былі ўзведзены рукамі чыгуначнікаў, магчыма, і ў час працы, але гэта маглі б выявіць інспектары Вышэйшай палаты кантролю. Сумняваюся, ці нехта адважыцца крануць гэтую справу.

А вяртаючыся да справы — рэструктурызацыя і мадэрнізацыя неабходныя, толькі сапраўдныя, эканамічныя.

**Уладзімір Сідарук**

# Беларускі фэст у Гарадку



*„Чыжавяне" гэта ці басавяне?*

Нядзельнай раніцай 19 ліпеня лінуў дождж з маланкамі і грымотамі і здавалася, што зноў не будзе пагоды. Аграмадныя хмары спплылі аднак з купала неба і ўсталявалася прыгожае цёплае надвор'е.

Беларускія мастацкія калектывы пасля фэсту ў Гайнаўцы спяшаліся ў напрамку маляўнічага Барыка, што ля Гарадка, дзе толькі што адгрымелі апошнія музычныя акорды маладзёжных рок-гуртоў з Беласточчыны і з Беларусі на папулярным студэнцкім „Басовішчы". Усімі ляснымі дарожкамі і сцежкамі непарыўным патокам плыў народ у напрамку аграмаднай сцэны пад каронамі соснаў і ўсядаўся на драўляных лаўках. Людзей прыбыло так многа, што шмат каму давялося на канцэрце стаяць.

Фэст адкрыў войт Гарадоцкай гміны Яўген Семянюк. Прывітаў ён сардэчна публіку, паслоў Сейма Сяргея Плеву і Яна Сычэўскага а таксама віцэ-консула РБ Паўла Латушку.

Ян Сычэўскі падкрэсліў, што так, як маладзёжныя рок-гурты, якія выступалі на гэтай сцэне, нам патрэбны і мастацкія беларускія калектывы. Песены беларускі фальклор з'яўляецца неад'емнай часткай нашай культуры.

Валянціна Ласкевіч выклікала на сцэну Гарадоцкі харавы калектыў, які ўжо 31 год працуе пад мастацкім кіраўніцтвам нястомнага Сцяпана Копы. Ён дасканала прасяпяваў разам са славутым хорам жартоўныя беларускія народныя песні „Як цудоўна мецi жонку" і „Бульба сёння, бульба ўчора".

Чарговы выступілі вядомыя „Хлопцы-рыбалоўцы" з Рыбалаў пад мастацкім кіраўніцтвам Яна Бурноса.

З поспехам выступіў упершыню мастацкі калектыў пенсіянераў з Гарадка „Асенні ліст" пад кіраўніцтвам Яна Карповіча, музычнага інструктара Гарадоцкага дома культуры.

Двойчы выступіў папулярны ўжо на Беласточчыне эстрадны калектыў „Капры" з Беластока.

Надта спадабаліся прысутным вядомыя ўсім „Васілёчкі" з Бельска-Падляшскага пад мастацкім кіраўніцтвам Уладзіміра Сахарчука і акампаніятара Веслава Далінскага. Гэты калектыў з'яўляецца лаўрэатам конкурсу „Беларуская песня '98". Хор спявае дасканала, робіць вялікае ўражанне тым, што харысты не стаяць на сцэне статычна, толькі спалучаюць свае песні з танцам.

Затым выступілі „Чыжавяне" з Чыжоў пад мастацкім кіраўніцтвам Міхася Аўхімені з Гродна.

Апошнім з вялікім поспехам выступіў Народны хор „Радуйся" з Мінска пад мастацкім кіраўніцтвам Алены Чарапан і з канцэртным майстрам Анатолем Марозам. Хор „Радуйся" базіруе на беларускім народным песенным фальклоры. „Жадаю вам шчасця ва ўсе вуглы і грошы ва ўсе кішэні", — развіталася з гледачамі вядучая Алена Чарапан.

Валянціна Ласкевіч сардэчна падзякавала войту гміны Яўгену Семенюку і кіраўніку Гарадоцкага дома культуры Тамары Бурачэўскай за дапамогу ў падрыхтоўцы фэсту а таксама шматлікай публіцы за цёплы прыём. На заканчэнне ўсе калектывы адспявалі папулярную беларускую песню „Люблю наш край".

Варта падкрэсліць, што Ніна Цываню і Тамара Бурачэўская а таксама іх сяброўкі працавіта завіхаліся, каб накарміць усіх гасцей і ўдзельнікаў калектываў.

**В. Ш.**

*Фота Сяргея Грынявіцкага*

Апанас Цыхун

# Пройдзеныя шляхі-пуцявіны


Польская настаўніцкая семінарыя. Чытальная зала. Сярод семінарыстаў, справа ў першым радзе — Апанас Цыхун.

*(запіскі, успаміны, аўтабіяграфія)*
**Частка VIII**

Мне вельмі хацелася ў школу. Але беларускіх школ пры панскай Польшчы не было. Змушаны быў ісці ў лашанскую пачатковую польскую школу. Школа знаходзілася ў вёсцы Лаша ў старым будынку, у якім некалі працаваў настаўнікам у народным вучылішчы бацька будучага вучонага Яўхіма Карскага. У ім жыла сям'я Карскіх, у ім убачыў свет будучы вучоны, з вуснаў маці пачуў роднае беларускае слова, якому быў верны да апошніх дзён свайго жыцця.

Не ведаючы польскай мовы, спачатку вучыцца было цяжка, але паступова я прызвычаіўся. Вучыўся я добра. Памятаю, што за адзін навучальны год закончыў я на выдатна аж два класы. Кіраўнік лашанскай школы Станіслаў Кучынскі, выдатны педагог, да мяне вельмі чула адносіўся. На працягу навучальнага года перавёў мяне з другога класа ў чацвёрты, які я закончыў з вельмі добрымі адзнакамі. Пасля далейшую вучобу працягваў у індурскай польскай сямігадовай школе, у так званай „паўшэхнай". З вёскі Кунцаўшчыны ў індурскую школу хадзіў толькі я, штодзённа робячы па чатырнаццаць кіламетраў дарогі. Індурскую школу я закончыў таксама з добрымі вынікамі. Затым стаў рыхтавацца да конкурснага экзамену для паступлення ў Гродзенскую польскую настаўніцкую семінарыю. Дапамагаў мне далёкі сваяк па матцы, які ўжо вучыўся ў Гродзенскай настаўніцкай семінарыі, Міхал Віктаравіч Салей. Першы экзамен у польскую настаўніцкую семінарыю здавалі па спевах (лічылі, што настаўнік павінен добра спяваць, мець добры слых, іначай не можа быць настаўнікам пачатковых класаў). Гэта мне і дапамагло паступіць у настаўніцкую семінарыю, прайсці конкурс.

Першы экзамен я здаў прафесару Станіславу Франчаку на пяць. Хоць выгляд у мяне быў мізэрны, я быў невысокага росту і хударлявы, прырода не пакрыўдзіла мяне голасам і слыхам. Пасля таго, як я праспяваў экзаменатару польскую патрыятычную песню „Не жуцім зemi, сконд наш руд" (Не пакінем зямлі, адкуль наш род), ён узяў аловак і пастукаў ім па стале, сказаў, каб я таксама пастукаў, як і ён. Затым на піяніна праіграў мелодыю і сказаў, каб я яе паўтарыў, што я і зрабіў. Сказаў мне: „Выстарчы. Бардзо добжэ!.."

Відаць, добры пачатак дапамог мне здаць і апошнія экзамены, хаця веды ў мяне былі слабыя. Такім чынам я вытрымаў конкурс для паступаючых і стаў семінарыстам першага курса Гродзенскай польскай настаўніцкай семінарыі.

У польскай настаўніцкай семінарыі ў той час вучыліся амаль адны палякі, часткова рускія, дзеці эмігрантаў, беларусаў зусім мала, на ўсіх курсах чалавек шэсць. Вучыцца было цяжка, асабліва беларусам, сялянскім дзецям, у тым ліку і мне. Цяжкія быў для вымаўлення маё імя — Афанасій і прозвішча — Цыхун. У сувязі з тым мне даводзілася перажываць розныя знявагі ад варожа настроеных да беларусаў асоб. Аднойчы мяне паклікаў у канцылярыю выкладчык фізкультуры, прафесар Дэканскі, каб мяне ўключыць у спіс фізкультурнай каманды, і ніяк правільна не змог напісаць маё імя і прозвішча. Некалькі разоў паправаў, нарэшце, са злобай заўважыў: „Кто ты естэсь?.. Чы ты хінчык? Чы ты япончык? Сконд ты естэсь?.."

Вучоба ў семінарыі давалася цяжка. За права вучыцца трэба было плаціць 80 злотых у паўгоддзе. За няўплату ў тэрмін грошай мяне некалькі разоў выключалі са школы. Даводзілася жыць не ў інтэрнаце, а на прыватнай кватэры, дастаўляць прадукты харчавання з вёскі, у тым ліку і хлеб (адзін вялікі бохан на дзве нядзелі, а часамі і на больш).

Дарагія былі падручнікі, вучэбныя дапаможнікі, асабліва струны для скрыпкі (адна струна каштавала 50 грошаў). А струны часта рваліся, а купляць не было грошай!

Апрача таго выкладчыкі розных прадметаў з пагардай ставіліся да беларусаў, іх мовы. Асабліва выкладчыца польскай мовы і літаратуры, паланістка, пані Райсуўна, Ляшка, як яе празвалі семінарысты. Гэтая худая, на тонкіх нагах, старая паненка, са скрыўленай левай сківіцай, ва ўсім бачыла ў беларусаў варожасць. Яна і ў маіх пісьмовых работах знаходзіла нейкія „русіфіцызмы", хаця я ў той час зусім не ведаў рускай мовы. Памятаю, сачыненне на тэму: „Якая з асоб у паэме «Пан Тадэўш» Адама Міцкевіча найбольш мне спадабалася?", у якім я напісаў, што найбольш мне спадабаўся капітан Рыкаў (рускі). Хаця сачыненне было напісана нядрэнна, яна мне паставіла двойку, толькі за тое, што я выразіў сімпатыю да рускага чалавека.

У вучобе вялікае значэнне мела і веравызнанне. Ксёндз Чарняўскі не адзін раз напамінаў мне, што трэба будзе жыць, а дзяржава „котэчку — польска". Прапанаваў мне прыходзіць на заняткі рэлігіі. Але я не пайшоў, трымаўся веры бацькоў сваіх. Пасля гэтага мае паводзіны выклікалі да мяне антыпатыю з боку дырэкцыі семінарыі, прафесуры і ксяндза. Тым больш, што ўсім было вядома, што мой дваюрадны брат Казімір Рагачэўскі быў рэвалюцыянерам-падпольшчыкам...

*(працяг будзе)*

# „Наша ніва" і ўсходняя Беласточчына

**Частка 21**

У 1909 годзе колькасць карэспандэнцыяў з усходняй Беласточчыны на старонках „Нашай нівы" ў параўнанні з папярэднімі гадамі значна паменшылася. Прычына такога стану рэчаў невядомая. Са сказанага не вынікае аднак, што тыднёвік увогуле перастаў цікавіцца жыццём нашых продкаў. Напрыклад, у 11 нумары „Нашай нівы" з'явілася публікацыя Т. Бульбы аб мястэчку Васількаве, у якім у мінулым жыло намнога болей беларусаў чым сёння. Прыгаданы артыкул адносіцца да бытавых спраў. Вось яго змест: „Горад Васількоў, Сакольскага павету Гродзенскай губерні (10 вёрст ад Беластока). Тутэйшыя гаспадары бядуюць, што іх зямля дрэнная. І праўда: хаця і самы бедны мужык мае каля 10 дзесяцін, але мала гною, нехват яго і на трэцюю часць, ды яшчэ салому і сена ўвосень вязуць у Беласток прадаваць. Кароў трымаюць мала: багацейшыя трымаюць па дзве каровы. У Васількове 16 піўных і рэстараны, дык прапіваць грошы там можна! Для мужыка гэта ўся разрыўка. Было-бы добра, каб завялі тут «народны дом», дзе была-бы можна рабіць чытанньня і тэатры".

У наступным 12 нумары тыднёвіка паявілася цікавая карэспандэнцыя Халімона з-пад Пушчы, у якой гэты знакаміты публіцыст ізноў заняўся любімай сваёй справай, звязанай з развіццём бібліятэк і чытальніцтва на Беласточчыне. Публіцыст вярнуўся да бібліятэкі ў Кленіках. З артыкула даведваемся аб зусім новым факце ў вясковай рэчаіснасці. Навінка заключалася ў тым, што кленіцкія сяляне забавязаліся не піць ні піва, ні гарэлкі дзеля бібліятэчнай і школьнай справы. Паслухайма аўтара:

„Вёска Кленікі, Гродзенскай губерні, Бельскага павета. Мужыкі памалу пачынаюць разумець, якую карысць прыносіць бібліятэка. Гэта відаць з апошняга валаснога сходу, што быў 22 лютага. У самым пачатку сход пастанавіў забараніць сваім грамадзянам піць гарэлку і піва; а калі хто будзе і далей піць, дык штрафаваць. Выбралі шэсць мужыкоў, каторыя павінны былі пільнаваць, каб усе спаўнялі гэтае пастанаўленне; за гэтым павінны былі глядзець і ўсе мужыкі. Зрабілі прыгавор, асталося толькі падпісацца, — здавалася справа ўжо і скончылася. Але пасля як некалькі мужыкоў абдумаліся і паднялі вялікі гвалт: „гарэлку і піва трэба піць!", і прыгавор адмянілі. Аднак, пасля ізноў мужыкі адумаліся і пастанавілі скасаваць усе шынкі. Гэты прыгавор падпісалі, а тых, хто пойдзе проціў гэтага пастанаўлення, штрафаваць на 10 рублёў. Штраф пастанавілі аддаваць на бібліятэку, а калі і збярэцца штрафу болей як на 25 рублёў, то даваць на школу. Добра, што мужыкі зразумелі хоць тую школу, якую робяць шынкі. У які тыдзень-другі мужыкі выпіваюць бадай з тысячу бутэлек піва і цэлую раку гарэлкі. Як раней казалі, мужыкі смяяліся, што шынкару прыйдзецца правесці трубу з бровара ў шынок, бо кабыле прыходзіцца вазіць гэтульки гарэлкі і піва, што хутка прыстане. Відаць, шынкар хоча заліць мужыкоў гарэлкай так як і знахар Хрэбустоўскі".

Пастанова кленіцкіх сялян, прынятая восемдзесят дзевяць гадоў таму сведчыць аб тым, што ў беларускіх вёсках моцна змагаліся ідэі зла і дабра. Схільнасць да алкагалізму як выраз зла знаходзіла супрацў у спробах паўстрымання гэтай катастрафічнай з'явы. Цяжка аднак сказаць, ці высакародная пастанова кленіцкіх сялян закончылася перамогай. Можна сумнявацца, што ўсе жыхары такой вялікай вёскі як Кленікі застасаваліся да пастановы сходу. Нягледзячы на гэта, воля мясцовых сялян сведчыла аб шляхетным імкненні да маральнага самаўдасканалення. Думаецца мне, што сёння такая ідэя не атрымала б падтрымкі з боку жыхароў ніводнай нашай вёскі. І гэта сведчыць аб пэўных маральных перавагах нашых продкаў над намі.

**Алесь Барскі**

# Нашы віры і праўда

Куды нашых людзей лёс не кідаў! У найгоршыя стыхіі і віры! Найперш у рускае бежанства падчас першай сусветнай вайны. І там нашы бацькі і дзяды спазналі душы чалавечай спагаду і любоў да бліжняга. Гэта рускі, магутны славянскі народ мае гэтыя якасці, бо прынялі нашых як сваіх родных і апошнім дзяліліся. А расейцы, хто не быў лодырам, жылі багата, не горш ад славутых немцаў, ад якіх у апошнюю вайну даволіся многім маладым пасмакаваць хлеба на прымусовых работах. Мы павінны быць удзячны рускім за іхнюю гасціннасць; хто б там не быў у бежанстве — усе цёпла ўспамінаюць іх прытулак. Многа ў „Ніве" пра гэта пісалася і пішацца, і гэта праўда. Вядома таксама і тое, што калі там запанаваў бальшавізм, дык і жыццё змянілася, і багатых не стала, аднак душа асталася. І хаця многія палякі, прымусова вывезеныя ўглыб Савецкага Саюза, дрэнна пішуць пра рускіх, быццам яны варожа ставіліся да палякаў, аднак у гэтым многа няпраўды. Бо з апавяданняў справядлівых людзей вядома, што і ў сталінскі час многія рускія, якія самі жылі бедна, дапамагалі палякам, каб не пагінулі ад голаду. Такая праўда!

Чытаючы публікацыю Аляксандра Вярбіцкага „Мая радзіма там, дзе мае бацькі" („Ніва" н-р 28) знаёмімся з паводзінамі другога народа — немцаў. Калі малады Уладзімір Тамашчук, як і тысячы іншых, апынуўся на прымусовых работах ва Усходняй Прусіі, баўэр, хаця быў багаты, карміў яго толькі дзеля таго, каб меў сілу працаваць як конь. Вось такая была немецкая гасціннасць і яна і сёння нічуць не змянілася; хай людзі ведаюць пра гэта. Немцы добрыя, але толькі самім сабе, а славянскай дабрыні і сэрца спазнаць ад іх не давялося. Можам дзівавацца іхнім парадкам, гаспадарлівасцю, кемлівасцю, але з дабрынёю і сэрцам ім далёка да рускіх. Такая праўда! А наш урад і большасць палякаў пнуцца ў НАТО і Еўрапейскі Саюз, хаця немец не накорміць Польшчы. Палякам трэба ў першую чаргу вельмі згодна і прынцыпова жыць з усходнімі суседзямі: Беларуссю, Украінай і Расіяй.

**Мікалай Панфілюк**

# Рэквіем да „Бахматаў”

Прагучалі і лiўнем прайшлі чарговыя Купаллі. Многа іх было — пад рознымі датамі і шыльдамі гуляў сёлета народ. Спрачацца, якое лепшае — няма аніякага сэнсу: Іван Купала адзін і вядома, хто ён. Адна і папараць кветка. А пакольк і мерапрыемствы ладзіліся ў розных месцах, ды і карысць з іх, здаецца, множная.

Здзіўляе толькі купальская ночка над залівам у Дубічах-Царкоўных. Там за кветкай бегала некалькі хлопцаў з нейкага СУПа. СУП, дарэчы, вядомы і яшчэ не так даўно крычаў: *Чого ж я цю нічку марную* на беразе рэчкі Нарвы, а паколькі славутая кветка там яму не паказалася (мо, фіга?), пайшоў на поўдзень. Напрамак, несумненна, добры. Але не здзівіць хіба нікога, як праз год, нашыя ўсё ж такі хлапчукі, загойсаюць гапака на берагах Супраслі ды Плоскі. А іх жа чакаюць *у Білай-Підляськай, на Холмщині, а навать Сувальщині*. Ці вуны пра гэта ведаюць?

Ну, але, пакуль што, гулялі СУПы ў згаданых Дубічах, на „Бахматах”. Гульні сабралі крыху мясцовых людзей, як заўсёды цікавых і прагных відовішча. Людзі гэтыя, праўда, крыху букаюць, але ўкраінцы з іх такія, як з мяне, напрыклад, лётчык. А Купала ёсць Купала. І таму, спачатку, дзеўкі неакрэсленай нацыянальнасці, г.зв. рус-алкі, пагойсалі па корчыках, а хлопцы паскакалі праз вогнішча. Пасля, гэтыя мешаныя рус-алкі, ва ўзнагароду, зрабілі *добрэ* для выбраных, найбольш лоўкіх і актыўных. І было добра, а некаторым нават прыемна. А ўсё прайшло пад акампанемент не так і чужых, бо суседскіх, музыкі і спеваў, двух калектываў з-над Дніпра, „Бэрозкі” (ці не „Бярозкі”) з Кнарыд і славутай на ўвесь свет „Родыны” з Дубяжына. А славутай тым, што яны — надта яркі прыклад і вобраз прынцыпу „толькі свіння не мяняе поглядаў”. І масці. Рох, рох, рох...

Ну, але пакуль да „Бахматаў”, з прыхільнікамі (бо ж не нашчадкамі) атаманшчыны, было вельмі, а то вельмі весела. У часы не так і даўнія, недзе ў пачатку васьмідзесятых гадоў, цяперашнія г.зв. лідэры і сімпатыкі СУПа, у вольныя ад навукі і працы хвіліны, уважна і ўголас чыталі ўсе творы ўсіх нашых „белавежцаў”. Некаторыя з іх так захапіліся творчасцю нашых пісьменнікаў, што і самі захацелі такімі быць. Пачалі пісаць даўжэзныя гімны, оды ў гонар паасобных нашых паэтаў, пасля вершы іншыя. Але ў тым часе, і зусім выпадкова, хіба аднаму з іх, папала ў рукі тоўстая кніга Тараса Шаўчэнкі. Пісьменнік ён магутны і украінскі вяшчун. І нашы хлопцы, не дачытаўшы нават да канца „Кабзара”, узялі яго за свайго. Свайго бацьку, дзеда, прадзеда... І пачалі яны дзеіць. І далей пайшлі справы амаль празаічныя — рэгістрацыя СУПа (ZUP-u) і г.зв. кратовая работа (партызаншчына з дыверсійным ухілам). Вядома, што на Беласточчыне, там дзе яны нарадзіліся, раслі... „Тут жа ўсе украінцы! — крычалі нядаўнія нашы хлопцы. — Па Нарву, а нават далей!” А пасля, маючы ўжо па шыю бегання па кіёсках Бельска і Гайнаўкі і выкуплівання цэлага тыражу (7 экземпляраў кінутых заўсёды на іншы кіёск) „Нашого слова”, узялі заўзяліся, заперліся і пусцілі ў народ нерэгулярнік „Над Нарвою і Бугом”. Пра яго, як і яго ўзровень гаварыць няма што, бо яго няма, так як і няма праблемы. Але працяг быць мусіць і нашы ўкраінцы намуціўшы і так бруднае вады ў двух хіба школах, пачалі збірацца пры ветраку ў Козліках. Месца, не аспрэчыш, добрае да паходу на Нарву. А аднаго разу склікалі туды крыху народу, трох (?) мясцовых уплывовых асоб (VIPаў) і пачалі пячы на вогнішчах бараноў і парасят. Смажылі, пяклі хвілін гэта сорак; настроілі нават балалайкі і гітары. Але зайграць на іх і заспяваць не было ім дадзена. І паласавацца печаным таксама. Як загрыміць, як зараве... Падумалі хлопцы, дзве дзеўкі, тры (?) VIPы і наш ні ў чым не вінаваты народ: Т-34 едуць і бамбёжка пачынаецца! І давай хто куды, стрымгалоў уцякаць. Найгорш на гэтым рэйваху выйшлі, вядома, г.зв. лідэры і сімпатыкі. На вялікіх вогнішчах, побач з парсючкамі і баранамі, прыпякліся: *хлопэць зь Выдова і діяч зь Крівятіч, хлопэць зь Лінэва і діяч зь Більська, хлопэць зь Срачів* (чытаць: з Істока, што ля Кленік) *і діяч зь Ботьків, і парох чэрэмшуків*. І ніхто іх туды ні сілком, ні гвалтам не пхаў...

Справа прыціхла хутка, як і хутка заціхлі трактары і матацыклы (эмзэткі і эмтэзэткі), на якіх наша культурная (як заўжды) моладзь ехала апаражніць бочку цёмнага піва ў Канюках і пагуляць на патупанцы ў ваколіцы Рыбал. Справа прыціхла і няма праблемы (як і не было), але жывуць і жыць яшчэ доўга будуць і тыя, што ехалі, і тыя, што давалі драпака. Цікава, ці раскажуць гэтую цікавую і павучальную гісторыю сваім дзецям? І адны, і другія. **Пра Козлікі, памятайце**. Туп-туп-туп — туп-туп-туп... І на поўдзень, і на поўнач. Туп-туп-туп...

**Генрык Балазюк**

# Юбіляры

50-годдзе шлюбнага сужыцця святкавалі шаноўныя юбіляры: у Кляшчэлеўскай гміне — Міхал і Люба Адамцы, Пётр і Ніна Андрасюкі, Васіль і Марыя Артысевічы, Ян і Валянціна Грыгарукі, Мікалай і Валянціна Гукі, Уладзімір і Яўгенія Кахачэўскія, Дзмітры і Вольга Краўчукі, Яўген і Ніна Насковічы, Ян і Вольга Сідарукі, Юзэф і Галена Сандовыя, Аляксей і Марыя Зялінкі ды Станіслаў і Разалія Жахоўскія; у Белавежскай гміне: Барыс і Лідзія Валкавыцкія, Юзэф і Аліцыя Цесьлякі, Сяргей і Вольга Байко, Аляксей і Анна Віткоўскія, Юзэф і Анастасія Валкавыцкія ды Сымон і Аляксандра Казлоўскія. Віншуем!

**(гай)**

# Конкурс „Нівы”

Рэдакцыя „Нівы” аб’явіла конкурс ведаў пра Беларусь. Пачынаючы з 23 нумара ад 7 чэрвеня, у дзесяці чарговых нумарах нашага штотыднёвіка змяшчаем пытанні па геаграфіі, гісторыі і культуры Беларусі. Побач друкуем тры адказы, сярод якіх правільны толькі адзін. Правільны адказ трэба пазначыць крыжыкам.

Чытачы, якія да 23 жніўня 1998 г. дашлюць у рэдакцыю дзесяць талонаў з правільнымі адказамі, возьмуць удзел у жараб’ёўцы ўзнагарод: першая — 500 зл., другая — 300 зл., дзве трэцця — па 100 зл., дзве падпіскі „Нівы” на 1999 год, два энцыклапедычныя даведнікі па культуры Беларусі. Спісак узнагароджаных будзе апублікаваны ў „Ніве” ад 30 жніўня.

Талоны просім дасылаць усе разам у адным канверце з паметкай: *Конкурс „Нівы”*.

**ТАЛОН № 9**

## Конкурс тыднёвіка *Ніва*

Нясвіж быў рэзідэнцыяй роду

- ☐ Сапегаў
- ☐ Хадкевічаў
- ☐ Радзівілаў

# ВЕР — НЕ ВЕР

Астроне, прыснілася мне, быццам я ляжу на канапе, яна вельмі шырокая, як падвойны ложак. У гэтым ложку ёсць яшчэ калега з працы. Але неяк ляжыць з другога краю, не побач са мною. Накрыты мы, аднак, адным пледам. Ён хворы, нейкі невыразны.

У другім сне, які мне прысніўся неўзабаве, я сварылася з адным хлопцам, але здавалася мне, што ён то з ЗБМ, то з БДА, то братчык. Але гэта адна асоба. Хлопец брыдка да мяне адносіцца, зласлівы. І ўсё гэта дзеецца пры людзях.

Я яго адклікаю на бок, размаўляю з ім. Ён пачаў трэсціся, проста калаціўся. Мо баяўся мяне. Што могуць абазначаць гэтыя сны?

**Мірка**

Мірка! Калі ўжо сніцца, што ты ў пасцелі з калегам па рабоце, то справа дрэнь. Варта было б максімальна хутка разгледзецца па наваколлі і „нешта” прыдбаць. Дзеля неспадзеўкі.

У тваім жыцці пераважае пачуццё крыўды, а дзеянне сну адбываецца сярод людзей, якія, відаць, табе блізкія з увагі на тваю грамадскую працу. Страх, што нехта абразіць цябе публічна, пры людзях, праследуе тваю галоўку нават у снах.

А непатрэбна, бачыш, ты гэтага баялася, бо хлопец пасля перапужаўся, калі ты насварылася на яго. Ды ўсё ж такі, калі такое сніцца, трэба разлічваць на нейкія непрыемнасці і быць гатовым да адпору. Сваркі ў сне не прадвяшчаюць нічога добрага, а толькі непакой, крыўду, а, магчыма, што і немалую страту.

У суме — праўдзівае жыццё.

**Астрон**

# Нечаканая сустрэча

Мае сын, нявестка і ўнучка жывуць у Беластоку ў квартале Беласточак, дзе каля чыгуначных пуцёў распаложаны садова-агародныя ўчасткі. Аднойчы, калі яны вось там прагульваліся, сустрэўся ім вясёлы дзядзька, які запрасіў іх у свой домік на спелыя, поўныя чарэшні. І калі так рвалі чарэшні, той дзядзька спытаў маю ўнучку, як яна называецца. Калі яна адказала „Авеліна Панфілюк”, тады той дзядзька сказаў майму сыну:

— Я ведаю аднаго Панфілюка, які піша ў „Ніву”, а імя яго Мікалай.

— Гэта мой родны бацька, — адказаў сын.

Тады прадставіўся і дзядзька. Быў гэта Мікалай Краўчук, які калісь пісаў у „Ніву” вершы. Яго вершы „Гарэлка”, „Капялюш” ды іншыя я некалі чытаў падчас розных пастановак на сцэнах у Дубічах і іншых мясцовасцях. Людзі білі апладысменты за тыя вершы, з якіх „Гарэлку” я яшчэ і сёння ведаю на памяць.

Сын спытаў сп. Мікалая Краўчука, чаму ён сёння не піша вершаў у „Ніву”. Паэт адказаў, што ўжо не тыя эмоцыі, няма натхнення, ды і „Ніва” ўжо не такая, як калісь; няма „Парнасіка”.

— Перадай шчыры паклон свайму бацьку Мікалаю ад мяне, — сказаў сыну на развітанне сп. Краўчук.

Я ад сябе сардэчна спадару Краўчуку дзякую за памяць і пасылаю яму і ягонай сям’і самыя шчырыя ад сэрца прывітанні. І спадзяюся, што вернецца ён на паэтычны шлях новымі сатырычнымі, трапнымі вершамі ў „Ніву”. Яго вершы вышэйшага, чым „Парнасік”, рангу, і напэўна знойдзецца ім месца ў „Ніве”. І тады ўбачым, сколькі мы страцілі ў яго шматгадовую адсутнасць. Лічу, што шанс на вяртанне ёсць.

**Мікалай Панфілюк**

*Ніва*, ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok, skr. poczt. 149, tel./fax (0-85) 743 50 22.

*Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.*

E-mail: niwa@kurier-poranny.com

Internet: (*wydanie elektroniczne w przygotowaniu*)

Teksty przesyłane redakcji do druku pocztą elektroniczną powinny być dołączone do listów w postaci plików typu .RTF (Rich Text Format).

Drukarnia: „Orthdruk”, ul. Składowa 9, Białystok.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.

Старшыня Праграмнай рады: Яўген Міранoвіч.

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Віталь Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк (сакратар рэдакцыі), Аляксей Мароз, Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Prenumerata:**

1. Termin wpłat na prenumeratę na IV kwartał 1998 r. upływa 5 września 1998 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały „Ruch” na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na IV kwartał 1998 r. wynosi 15,60 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Krajowej Dystrybucji Prasy, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa. Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-16551-2700-1-06.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką wynosi 2,20 zł, a kwartalnie — 28,60 zł. Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika „Niwa”, Białystok, ul. Zamenhofa 27, nr konta PBK S.A., I Oddział Białystok, 11101154-207917-2700-1-65.

Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.

 

# Ніўка

## Карыда гамініда

Захацелася мне пачытаць нейкую скандальную газету, бо з такіх газет можна шмат чаго цікавага даведацца. У прыстойных газетах весткі вельмі нудныя, аж чытаць не хочацца. Напрыклад, пішуць цяперака многа пра тое, што былая прэзідэнціха Граса Машэль, удава па былым прэзідэнце Мазамбіка Саморы Машэлю, выйшла замуж за чарговага, васьмідзесяцігадовага прэзідэнта Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі Нельсана Мандэлу і зноў стала прэзідэнціхай! Першы быў старэйшы за яе на трынаццаць гадоў, а другі на дваццаць восем. Не ў гадах, відаць, тут справа; у спадарыні Грасы, пра што ўжо прыстойныя газеты не пішуць, пэўна асаблівыя прэзідэнцкія вартасці, якія ў скандальных газетах называюць габарытамі — нейкія такія для заслужаных змагароў. На вяселле былі запрошаны шматлікія госці на чале з суперсевакам Майклам Джэксанам і суперманекеншчыцай Наомі Кэмпбел.

Амерыканскаму ж прэзідэнту Клінтану некаторыя аракулы прарочаць зусім другую, чым вяселле, падзею. Мае аднак гэта здарыцца пасля яго пераезду ў другое, чым Белы дом месца жыхарства. Нават пайшла чутка, што адзін з галівудскіх акцёраў купіў у Каліфорніі дачу Клінтану, каб той меў дзе пасля тае падзеі пасяліцца, але высветлілася, што акцёр купіў дачу сабе. Аднак Клінтану і так пашчасціла: адзін з кіргізскіх фермераў заявіў, што дорыць Клінтану каня-скакуна; Клінтан паабяцаў, што па скакуна прыедзе ў Кіргізстан асабіста.

А прэзідэнт Філіпінаў Джозеф Эстрада, хаця мае прызначанага сабе шафёра, сам водзіць службовы прэзідэнцкі аўтамабіль, а шафёр сядзіць на прэзідэнтавым месцы. І калі так прэзідэнт Эстрада руліць па вуліцах Манілы, паліцэйскія спыняюць рух на праязджаемым ім шляху, не выключаючы аднак святлафораў. А прыкладны прэзідэнт Эстрада, замест націскаць на акселератар, націскае на тармазы і затрымоўваецца перад кожным чырвоным святлафорам! Робіць ён гэта дзеля таго, каб сваім прыкладам прывіць пашану законам; у згаданым выпадку — законам дарожнага руху. Відаць, радавыя філіпінскія вадзіцелі паважаюць закон так жа, як і арыгінальны вадзіцель дзяржавы Беларусь.

А пра яго — пра любімага намі нашага Прэзідэнта, у прыстойных газетах дарма чаго шукаць. Тады надумаў я пашукаць нейкай непрыстойнай газеты; мо там пішуць, што і ён адпіхнуў пілота ад штурвала прэзідэнцкага самалёта, якім Прэзідэнт лятае то туды, то сюды, і сам пачаў пілатаваць, як гэта калісь адабраў мікрафон спартыўнаму каментатару і сам пачаў каменціраваць. Даведаўся я, што адна бойкая баба знайшла адну непрыстойную газету на рыначку ў Гарадку ў расадзе памідораў. Падаўся я тады на рыначак, але рыначак ужо быў закрыты, а нейкія добрыя людзі асвядомілі мяне, што цяпер замест расады прадаюць адно чырвоныя, як тарэадорава ануча, спелыя памідоры.

Не знайшоў я непрыстойнай газеты і вярнуўся, бышцам не знайшоўшы папараці-кветкі ў купальскую ноч, дадому і ўключыў тэлевізар. І тут то да мяне ўсміхнулася шчасце, і то не абы-якое; як калісь той бойкай бабе ў Гарадку! На экране электронна-прамянёвай трубкі красаваўся паклоннік нашага Прэзідэнта, наш любімы Старшыня, які і расказваў акурат пра такую непрыстойную газету. А газета тая, гэта проста сэнс ягонага існавання, бо сэнсам яго існавання з'яўляецца барацьба з гэнаю вось газетай. Сказаў ён, што ў апошніх днях памагутнелі атакі на яго асобу і віноўнікам тае агрэсіі назваў, вядома, газету. Хаця праўда такая, што не былі гэта атакі, толькі беспахвальныя выказванні пра яго ягоных калегаў-парламентарыяў. І не ў газеце яны былі, толькі па радыё. Але не трэба за памылку вінаваціць Старшыню, бо мае ён на яе права: ён жа, як вядома, пасол парламента, а ў парламенце ў апошніх днях адбывалася такое змаганне за адміністрацыйны падзел, да таго ж яшчэ без партыйных указаў, як трэба галасаваць, што і разгубіўся, бедалага. Бо беларус без указаў — як авечка. Хіба што мае перад сабою газету; тады перадавы беларус — як іспанскі бык перад чырвонаю, як спелы памідор, анучай.

А можа разгубіўся ён і ад пакутаў хвалявання за бел-чырвона-белы сцяг,




*Мал. Алега КАРПОВІЧА*

якім на несімпатычным яму „Басовішчы", дзе ён ніколі яшчэ не быў, неадказныя маладыя людзі махаюць, быццам анучай. Ведай пра гэтае хваляванне Прэзідэнт — дулю а не гадзіннік сунуў бы ён Старшыні! Але Старшыня мігам схамянуўся і паправіў, што сёлета было прыстойна; значыць прыстойна махалі быццам анучай. А наконт газеты ён яшчэ паінфармаваў, што многія патрабуюць ад яго каб зрабіў нешта з ёю. Апраметная ідэя!

Дарагія чытачы, калі вам агідная газета, як іспанскаму быку чырвоная ануча, вы таксама дамагайцеся ад Старшыні такога акту! А калі б ён марудзіў ці нават ветліва, як дагэтуль, аднекваўся, тады хапайце яго за абодва рукавы ці нават нагавіцы, а ў крайнім выпадку нават за будучыя рэліквіі шматпакутніка, і не адпускайце іх датуль, пакуль у рэшце рэшт ён не прыкончыць гэтую паскудзь. Даволі змагання з ненавісным перадавому беларусу скандальным алфавітам!

Ole! **Адам Маньяк**

## Двухлітарная крыжаванка

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | 2 | | 3 | | 4 |
| | ■ | 5 | 6 | | ■ | |
| 7 | 8 | ■ | | ■ | 9 | |
| | 10 | | | | | |
| 11 | | ■ | | ■ | 12 | 13 |
| | ■ | 14 | | 15 | ■ | |
| 16 | | | | 17 | | |

**Гарызантальна:** 1. сталіца Руанды, 3. можа быць саламяная, 5. гільза артылерыйскага снарада, 7. левы прыток Волгі, 9. тоўсты сук, 10. людаедства, 11. засмучэнне, шкадаванне, 12. акружэнне працўніка, 14. горад з вежай Сірса, 16. паўстае з семявых клетак самца і саміцы, 17. залог, гарантыя.

**Вертыкальна:** 1. невялікая рыба сямейства селядцовых, 2. пісьмо, 3. форма тулава, 4. грубы чалавек, 6. цыркавая гімнастыка, 8. Пятрусь, беларускі пісьменнік, народжаны ў 1932 годзе ў Крушынянах, 9. ампітуда, 11. сонцазасцерагальныя шторы з пласцінак, 13. вывучае ўласцівасці святла, 14. абласны горад у Забайкаллі, 15. горад у Палесціне.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку 25 з нумара**

**Гарызантальна:** барон, Аляксандр, радок, сезон, Ака, сланіха, каробка, ніт, татэм, канат, рассаднік, агіда.

**Вертыкальна:** храсток, бляск, нанос, ардынатар, разбойнік, рулет, накат, ААН, акт, Іспанія, масла, Конга.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Міхалаю Сазановічу** з Навін-Вялікіх.

## „Даўціпы" Андрэя Гаўрылюка

— Што мусіць зрабіць лысы, каб пачухацца па валасах?

— Дзірку ў кішэні.

* * *

Ксёндз спатыкае на вуліцы двух панкаў:

— Завіталі б, хлопцы, хаця раз у касцёл, — прапануе ім.

Яны зарагаталі.

— Дык хаця скарысталі б можа з ванны? — дадае ім на адыход.

— А што гэта такое ванна? — пытае пасля адзін панк другога.

— Не ведаю, я ніколі не быў у касцёле.

* * *

У кавярні госць заказаў крэм за шэсць злотых. Падчас асалоднага спажывання заўважыў у крэме гузік. Абураны кліча афіцыянта:

— Я заплачу за крэм шэсць злотаў, а ў ім — гузік!

— А вы мо хацелі, каб за шэсць злотых знайсці ў крэме цэлы фрэнч!

* * *

У бар уваходзіць Грыша са слоікам у руцэ. Заказаў у бармена чарку гарэлкі і на закуску сліву ў воцаце. Гарэлку выпіў а сліву палажыў у слоік. Гэтак рабіў ён датуль, пакуль слоік не запоўніўся слівамі. Заплаціў ён бармену і хістаючыся выйшаў з бару.

— Дзіўны чалавек, — азваўся да бармена адзін з гасцей.

— Чаму дзіўны? Жонка паслала яго па слівы, — паясніў бармен.

* * *

Гутараць дзве дамы:

— Чаму вы звольнілі сваю служанку?

— Бо была прыгожая і падабалася...

— Вашаму мужу?

— Такое мяне не цікавіць; яна занадта падабалася прыяцелю нашага дома.

 